# Зьмест

Зьмест

















Такім чынам, лічбы на календары і стан надвор'я ў адзін голас сьведчаць, што на ўсіх нас са звышгукавой хуткасьцю рухаюцца халады, а прыродзе чалавечай, як вядома, уласьціва трансфармаваць нэгатыўныя атмасфэрныя зьмены ў адмоўную энэргію. Выяўляцца гэта можа праз лёгкую незадаволенасьць і агульную раздражнёнасьць, аднак часам набывае разбуральныя маштабы, перарастаючы ў адкрытую беспадстаўную агрэсію, якая ёсьць ня спосабам вырашэньня разнастайных жыцьцёвых складанасьцяў, як многія лічаць, але іх крыніцай. І рэдакцыя часопісу, у меру сваіх сьціплых магчымасьцяў, вырашыла падтрымаць чытачоў. Менавіта таму лістападаўскі нумар **CD** насычаны магутнай антыагрэсыўнай энэргетыкай, якая, спадзяемся, дапаможа ўсім нам змагацца з драпежнымі жывёльнымі інстынктамі. Але, для дасягненьня лекавага эфэкту, часопіс трэба зусім не прыкладаць да балючага месца, а – як бы дзіўна гэта ні гучала – чытаць. Тым больш што аздараўляльныя ўласьцівасьці маюць ня толькі матэрыялы, прысьвечаныя непасрэдна агрэсіі й спосабам змаганьня зь ёй. Стварэньню станоўчых эмоцыяў паспрыяюць таксама падарожжы – часавыя і прасторавыя: пошукі згубленых ісьцінаў у нетрах таямнічай Індыі ад **Алены Арцімовіч** і **Сяргея Агараднічэнкі** ды вандроўка **Наталі Гардзіенка** па эўрапейскім сярэднявеччы. А вось **Сяргей Кароль** нікуды ня езьдзіць. Яму і ў Амэрыцы добра. Чытайце ў гэтым нумары ягоныя развагі з нагоды выбараў у ЗША, а таксама новыя выразы з амэрыканскага слоўніка любоўных зносінаў. Удасканальвайце ангельскую! А таксама нямецкую, гішпанскую, францускую – дадае **Стася Куніцкая**, наш сакрэтны агент у сусьветным павуціньні. Працягвае адукацыйную лінію й **Тацьцяна Сапега**, раскрываючы нам новыя магчымасьці навучаньня за мяжой. Аднак, каб захаваць фізычнае й псыхічнае здароўе, нельга сьвету белага за працай ня бачыць – трэба актыўна адпачываць. Некалькі ідэяў на гэты конт маюць **Забава Народная** і **BMA group**. Але калі вы ўсё ж такі перапрацаваліся й адчуваеце сябе ня дужа добра – хутчэй да **доктара Кхмэра**! – любую хваробу прасьцей папярэдзіць, чым лячыць пасьля. Тым больш такую, як гастрыт...

Іншымі словамі – адгарні наступную старонку!





*Рэдактар* ***Ірына Віданава***

*Намесьнік рэдактара* ***Андрэй Скурко***

*Стыль і карэктура* ***Алена Беляеўская***

*Адказны сакратар* ***Тацяна Лінкевіч***

*Дызайн, вёрстка й кампутарная графіка* ***Аляксандар Мазанаў***

*Выдавец: рэдакцыя часопісу “Студэнцкая думка”. Часопіс распаўсюджваецца праз сетку “БелСаюзДруку” і праз прыватных распаўсюднікаў. Правамі на матэрыялы валодае часопіс “Студэнцкая думка”. Пры перадрукоўцы матэрыялаў абавязковая спасылка: “У арыгінале гэты тэкст быў апублікаваны ў часопісе “Студэнцкая думка”. Меркаваньні аўтараў часопісу не заўсёды супадаюць зь меркаваньнем рэдактара і рэдакцыі. Нягледзячы на тое, што ў працэсе падрыхтоўкі нумару фактычныя дадзеныя матэрыялаў часопісу строга кантралююцца, рэдакцыя не нясе адказнасьці за дакладнасьць апублікаванай інфармацыі, а таксама за розныя кшталту наступствы, зьвязаныя з апублікаванымі матэрыяламі.*

*У падрыхтоўцы нумару бралі ўдзел: Сяргей Агараднічэнка, Алена Арцімовіч, Андрусь Белавокі, Наталя Гардзіенка, Доктар Язэп Кхмэр, Забава Народная, Сяргей Кароль, Стася Куніцкая, Натальля Маковік, Сяргей Мікулевіч, Якуб Наваградцаў, Натальля Пашкевіч, Тацьцяна Сапега.*



*Тэлефон рэдакцыі: 596 51 10*

*Факс: 206 59 09*

*Пэйджэр (для рэклямадаўцаў): 211 85 85, абанэнт 6675*

*Адрэса для допісаў: 220030, Менск-30, п/с 90*

***E-mail:*** dumka@bsa.org.by

Internet: www.studumka.com

# RELATIONSHIP

Сяргей Кароль



У верасьнёўскім нумары CD я падаў, ва ўласным перакладзе, пэўныя вытрымкі з амэрыканскага выданьня "Кароткі слоўнік любоўных зносінаў: сучасныя амэрыканскія канцэпцыі" (МакБіэл Прэс, Бостан, 1999). У асноўным гэта былі паняткі, што ілюструюць скіраванасьць амэрыканцаў на стоадсоткава рамантычны саюз незалежнай асобы зь ідэальным партнэрам (**The One**). Такая зьява сталася нарэшце магчымай у наш час, калі цяжкасьці эканамічнага выжываньня адыходзяць на другі плян. Разам з тым мноства шлюбаў скончаюцца разводам, асабістым няшчасьцем і далейшымі (часта – бясконцымі) пошукамі. Паняткі, пададзеныя ніжэй, таксама тычацца працэсу ўзьнікненьня адносінаў, а таксама нечаканых праблемаў сэксуальнай самаідэнтыфікацыі, што раптам вынікаюць у сьвеце роўных мажлівасьцяў. Як і раней, тэрміналёгія можа прыдацца тым, хто вывучае ангельскую, плянуе паехаць у ЗША, і асабліва тым, хто плянуе абмяняць славянскі сэкс-эпіл на амэрыканскі дабрабыт.

**Beverly Hills 90210** – звышпапулярнае сярод моладзі тэлешоў пачатку дзевяностых, што сфармавала стыль цэлага пакаленьня. Тэма адносінаў глыбокіх і павярхоўных заняла ў тэлешоў асаблівае месца. Праграма зарабіла рэпутацыю найбольшага ў Галівудзе спажыўца мятнага элексіру для рота – з прычыны мэтражу, адведзенага на пацалункі.



**Bouquet** – абавязковая частка вясельнага рытуалу. На пачатку прыёму пасьля цырымоніі ў царкве маладая кідае букет з-за сьпіны ў кола незамужніх сяброўак. Паводле павер'я, тая, хто яго зловіць, выйдзе замуж наступнай. Незалежна ад узросту сяброўак маладой змаганьне за букет звычайна набывае форму гульні ў рэгбі на спаборніцтвах вышэйшай лігі. А вось аналягічны рытуал для мужчынаў – калі малады гэткім самым чынам кідае падвязку ад нявесьцінай панчохі – нагадвае сваёй пасыўнасьцю пасрэдны матч дваровых камандаў па бэйсболе.

**Boyfriend/Girlfriend** – звышпапулярны тэрмін, што пазначае шырокі спэктар адносінаў – ад практычнага партнэрства да глыбокіх пачуцьцяў. У падлеткавым і студэнцкім асяродзьдзі – абавязковы атрыбут папулярнага іміджу, разам з шэрагам іншых прадметаў (гл. **Cell Phone, Two-Door Car**). Сярод дарослых – сталы партнэр, аб'ект каханьня. Мае статус мужа (жонкі), нягледзячы на адсутнасьць афіцыйнай рэгістрацыі.

**Break-Up** – афіцыйнае расстаньне пары. Дапамагае своечасова спыніць пакутлівы працэс паступовага ўзаемнага зьненавіджаньня. Не выключае магчымасьці аднаўленьня рамантычных зносінаў у будучым. У гэтым выпадку пэрыяд расстаньня завецца **Being-on-a-Break**.

**Cake** – вясельны торт. Аб'ект таемных мараў дзяўчынак і незамужніх жанчынаў. Шматпавярховае кулінарнае збудаваньне – сымбаль спраўджанай мары, вынік шматгадовага пошуку, сотняў расчараваньняў і дзясяткаў бяссонных начэй, прашаптаных зь сяброўкамі (гл. **Sleepover**).






**Cell Phone** – электронная прылада, што дазваляе асобам паміж пятнаццацьцю й трыццацьцю заставацца ў стане пастаяннага сацыяльнага кантакту, дзякуючы сотавай сувязі й уласьціваму ёй унівэрсальнаму ўзаемадасягненьню. Аб'ём інфармацыі, якая перадаецца, дасягае гігабайту ў хвіліну, аднак мае мінімальную зьместавую нагрузку.

**Circle** – кола, у якім знаходзяцца сябры маладых падчас кіданьня букету й падвязкі. Па меры сталеньня групы сяброў дзяцінства (да трыццаці год) кола паступова звужаецца і зноўку пашыраецца пасьля трыццаці пяці.

**College** – пэрыяд жыцьця, непрапарцыянальна разьмеркаваны паміж чытаньнем падручнікаў, спартовым самаездам, размовамі па сотавым тэлефоне й працяглымі гулянкамі з морам піва, тэкільлі й гарэлкі з памаранчавым джусам. Пэрыяд пошуку асабістай ідэнтыфікацыі й арыентацыі. Вызначаецца вялікай колькасьцю партнэраў у адзінку часу, падвышанай цікавасьцю да вопраткі ў абцяжку, каменных цягліцаў, бэйсболак, супрацьлеглага (або свайго) полу, а таксама абыякавасьцю да ўласнага маральнага аблічча (гл. **Make-Out**).




**Ex- (boyfriend/girlfriend)** – былы партнэр пасьля Break-Up. Многія пары ў стане захаваць сяброўскія адносіны пры адсутнасьці рамантычнага кампанэнту, захаваўшы ўзаемападтрымку. Калі абодва былыя партнэры ў дадзены момант самотныя, паміж **Ex** ня выключаны й спарадычны сэксуальны кантакт – без прэтэнзіяў і чаканьняў. Не выключаецца таксама й аднаўленьне адносінаў. Такога кшталту сяброўскія стасункі ў рэжыме стэнд-бай часта перапыняюцца са зьяўленьнем у жыцьці аднаго з **Ex** новай дзейнай асобы.

**Harassment** – юрыдычны панятак. Стварэньне амаральнай атмасфэры на працы, а таксама сэксуальны перасьлед шляхам выкарыстаньня службовага становішча. Юрыдычная адказнасьць за такога кшталту дзеяньні спрыяла ўсталяваньню сацыяльнай роўнасьці на працоўным месцы. З прычыны частай нявызначанасьці факту парушэньня вядомыя злоўжываньні ў выглядзе беспадстаўных і сфабрыкаваных іскаў.



**Hostile Environment** – адна з формаў **Harassment**. Стварэньне абставінаў, прыніжальных для жанчынаў, шляхам выказваньняў і паводзінаў супрацоўнікаў. Наймальнік павінен прыняць меры, каб пазьбегнуць **Harassment**.

**Hot** – агульны панятак. Стан сэксуальнай прывабнасьці, што не паддаецца рацыянальнаму вытлумачэньню. Датычыцца як мужчынаў, так і жанчынаў. Часта пазначае прыроджаную якасьць або культурны статус, асабліва сярод моладзі (гл. **College**).

**Make-Out** – фізычны кантакт рознай ступені складанасьці. У большасьці выпадкаў ➲

2. Зак. 1326



American Pie

набывае форму жарсных пацалункаў і абдымкаў, часта з малазнаёмым прадстаўніком супрацьлеглага полу або з аб'ектам таемнага захапленьня ва ўмовах алькагольнага ўзьдзеяньня сярэдняй цяжкасьці. Асаблівую папулярнасьць мае сярод падлеткаў і студэнтаў (гл. **College**).

**Move-In** – рашэньне пасяліцца сумесна з рамантычным спадарожнікам. Найгалоўны этап любога **relationship**. Набывае важлівасьць, суадносную з заручынамі. Нягледзячы на тое, што сумеснае пражываньне можа доўжыцца гадамі, а цяжкасьці пераезду й арэнды жылплошчы ў ЗША мінімальныя, разглядаецца як не абы-які крок да шлюбу й зьяўляецца найважнейшым доказам наяўнасьці **Commitment***.

**Romantic Getaway** – выходныя, якія пара бавіць у ад'ездзе, звычайна ў антыкварных прыватных гатэлях, наводдаль ад штодзённых турботаў, сваякоў і сяброў. Набывае асаблівае значэньне для сталых параў, у якіх рамантыка першых дзён паступова зацягваецца тваньню паўсядзённасьці.

**Sleepover** – ноч, праведзеная ў гасьцях у сяброўкі ў дзяцінстве або юнацтве, прысьвечаная абмеркаваньню якасьцяў знаёмых маладзёнаў, асабістых сродкаў іх прывабленьня і параўнальным, звычайна нэгатыўным аналізам патэнцыйных суперніцаў. Важлівы элемэнт культурнага фармаваньня дзеўчын. Падставовыя каштоўнасьці, што вызначаюць густы й патрабаваньні жанчыны да рамантычнага партнэра, у тым ліку партрэт ідэальнага спадарожніка, фармуюцца падчас **Sleepover**.

**Two-Door Car** – мэханічны дадатак да асабістае круцізны (гл. **Cool***). Сродак сацыяльнага самавыяўленьня. Таксама ўжываецца ў якасьці мэдычнай прылады, што дазваляе зьменшыць гарманальны ціск шляхам перасоўваньня па аўтамагістралі з хуткасьцю, блізкай да звышгукавой (гл. таксама **Manual Shift***).

**Work Place Dating** – стасункі на працы. Набылі асаблівае значэньне ў апошняе дзесяцігодзьдзе, калі зьнікла дыскрымінацыя жанчынаў-падначаленых кіраўнікамі-мужчынамі (гл. таксама **Harassment** і **Hostile Environment**). У 1990-х, каб пазьбегнуць магчымага нэгатыўнага ўплыву relationships паміж супрацоўнікамі на іх працаздольнасьць, шмат якія арганізацыі забаранілі службовыя раманы. Практыкуецца таксама агульная забарона на асабістыя стасункі ў офісе. Апошняе крытыкуецца – той факт, што людзі, якія знаходзяцца на працы большую частку сьветавога дня, будуць падпадаць пад уплыў чараў каханьня, нельга адмаўляць. Спроба поўнасьцю аддзяліць асабістае ад прафэсыйнага ня можа быць пасьпяховай.

Напрыканцы – цытата з пасьлямовы Слоўніка: "Такім чынам, грамадзтва раўнаправўных, што вынікла ў другой палове ХХ стагодзьдзя, па-ранейшаму абапіраецца на культурніцкія схемы, вядомыя ў літаратуры й мастацтве ўжо некалькі тысячаў год. Сёньня мы раптам перасталі быць аўтаматычна запраграмаванымі мужчынамі-ваярамі, кармілелямі й кіраўнікамі або жанчынамі-прынцэсамі, мацеркамі й сакратаркамі. Тым ня менш, мы не перасталі быць хлопчыкамі й дзяўчынкамі, што глядзяць адно на аднаго то з жарсьцю, то з нянавісьцю, бегаюць адно за адным і выхваляюцца сваімі перамогамі на асабістым фронце, а таксама бавяць у абдымках адно аднаго лепшыя моманты свайго жыцьця". Чаго й вам, чытачам **CD**, шчыра жадаю. І хаця **Move-In** у эканамічна адсталай Беларусі зьдзейсьніць даволі цяжка, **Make-Out** цалкам магчымы! CD

* — Гл. CD № 6-2000

*Цяпер мы тут!!!*

*Тэлефон рэдакцыі: 596 51 10*

*Факс: 206 59 09*

*Пэйджэр (для рэкламадаўцаў): 211 85 85, абанэнт 6675*

*Адрэса для допісаў: 220030, Менск-30, п/с 90*

*E-mail:* dumka@bsa.org.by
Internet: www.studumka.com





*Тацьцяна Сапега*

# "Обучение за рубежом": чытайце й дзейнічайце!

Так ужо склалася, што першапачатковую адукацыю беларусы часьцей за ўсё атрымлівалі на радзіме, а вось удасканальваць свае веды ехалі "за бугор". Узяць хаця б таго ж Скарыну, зь яго Кракаўскім ды Падуанскім унівэрсытэтамі, або Мікалая Радзівіла Сіротку – са Страсбурскім і Цюрынскім, або Льва Сапегу – з дыплёмам Ляйпцыскай ВНУ, або Марціна Пачобута Адляніцкага, які вывучаў у Празе астраномію, ня кажучы ўжо пра філёзафа й этнографа Уладзіслава Вярыгу – той увогуле пасьпеў павучыцца ў трох унівэрах: Бэрлінскім, Праскім ды Бэрнскім, як, дарэчы, і Б. Дыбоўскі, які грыз граніт мэдыцыны й прыродазнаўчых навукаў у Дэрпце, Брацлаве й Бэрліне...

У нескарочаным выглядзе гэты пералік заняў бы пару-тройку нумароў CD. Таму сёньня нікога не зьдзіўляе тое, што хтосьці з агульных знаёмых вучыцца ў Нямеччыне, Чэхіі, Польшчы альбо ЗША. Мы й самі былі б ня супраць сьвет пабачыць і сябе паказаць, калі б не перашкаджалі паталягічны беларускі пафігізм ды элементарны недахоп інфармацыі пра магчымасьці навучаньня за мяжою, пра асаблівасьці сыстэмаў адукацыі ў іншых краінах. Калі ж такая інфармацыя зьяўляецца, мы проста разрываемся паміж процьмай мажлівасьцяў і варыянтаў, паступова трацячы надзею абраць у рэшце рэшт што-небудзь адно.

Знайсьці зьвесткі пра навучаньне за мяжой можна рознымі шляхамі – праз Internet, праз інфармацыйныя службы пры замежных прадстаўніцтвах і г.д., а для тых, хто ня мае кампутара або жаданьня цягнуцца ў амбасаду, прапаную адзін з найбольш даступных спосабаў: разгарнуць штомесячны часопіс "Обучение за рубежом". Там вы знойдзеце інфармацыю пра сыстэмы адукацыі розных краінаў, пра асаблівасьці навучаньня ў канкрэтных навучальных установах, а таксама атрымаеце адказы на наступныя пытаньні:

- як выбраць ВНУ за мяжой;
- як падрыхтавацца да здачы іспытаў і тэстаў;
- як паводзіць сябе падчас сумоўя ;
- што павінна быць напісана ў рэкамэндацыях;
- як запоўніць анкету пры паступленьні;
- як атрымаць працу падчас вучобы;
- як і дзе знайсьці грошы на вучобу (інфармацыя пра фундацыі, стыпэндыі, гранты і праграмы);
- як атрымаць візу на час навучаньня;
- як выбраць моўныя курсы ў замежнай краіне;
- якія ёсьць магчымасьці стажыровак.

Сваім практычным досьведам на старонках часопісу дзеляцца студэнты, што ўжо навучаюцца ў замежных школах, каледжах і ВНУ.

У рубрыцы "Лінгвістыка" можна, напрыклад, атрымаць кароткую памятку з пасьлярэформавых правілаў нямецкага правапісу, слоўнікавы мінімум для au- pair і для размовы з прадстаўнікамі ВНУ, моўныя тэсты, заданьні й крыжаванкі або дазнацца, як панямецку завуцца рэфэраты й іспыты.

У рубрыцы "Internet" падаюцца адрэсы сайтаў унівэрсытэтаў, а таксама старонак, дзе можна знайсьці шмат інфармацыі пра навучаньне за мяжою.

З рубрыкі "Кампутаровыя праграмы, падручнікі" дазнаецеся пра новыя энцыклапэдыі, даведнікі й дапаможнікі па замежных мовах для паступленьня ў замежныя навучальныя ўстановы.

Часопіс расейскі, таму ня ўсе зьвесткі падыходзяць для нас, але ўсё-ткі ў ім багата карыснай інфармацыі, якая дапаможа й падштурхне да рэальных крокаў. Часопіс можна замовіць па пошце, але найбольш танны шлях – пачытаць яго ў бібліятэцы. Напрыклад, "Нацыяналка" мае ўсе яго нумары за 1999–2000 гг. (шыфр 3ок 8492).

Пагартайце часопіс, і вы пераканаецеся, што магчымасьці ёсьць. Было б вялікае жаданьне і – наперад! CD




# Агрэсія

**_Натальля Пашкевіч_**

*Каб зброя стрэліла, нехта павінен націснуць курок; як некаторыя ружжы бываюць з чуйным курком, так і асобным людзям вельмі лёгка "зьняцца з засьцерагальніка".*

Усё пачалося нейкі час таму, калі я вырашыла напісаць экзамэнацыйны рэфэрат па псыхалёгіі на тэму "Сацыяльныя адносіны". У прынцыпе, мяне заўсёды цікавілі ўзаеміны паміж людзьмі ў грамадзтве, уплыў апошняга на асобу й наадварот. Я й раней ставіла перад сабою пытаньні: "Чаму чалавек робіць нешта так, а не іначай? Адкуль у людзях столькі злосьці, варожасьці адно да аднаго?" Нарэшце, у мяне зьявілася эксклюзыўная магчымасьць дасьледваць гэтую праблему сур'ёзна.

Я здабыла неабходную літаратуру, пераглядзела ўсё, што ўваходзіць у панятак "Сацыяльная псіхалёгія". Болей за іншыя мяне зацікавіў тэрмін "Агрэсія". І я пачала вывучаць усё, што яго тычыцца, нават больш для сябе, чым для працы. Празь нейкі час са мною пачалі адбывацца дзіўныя рэчы, якіх раней ні я, ні мае знаёмыя не заўважалі. Выяўлялася гэта ў нейкай хваравітай рэакцыі на навакольную рэчаіснасьць. Ледзьве ня кожны некарэктны выраз, заўвага ці пытаньне пачалі выклікаць ува мне хвалі лютасьці, і я магла кідаць словы, поўныя злосьці й непрыязьні.

Дык што ж такое агрэсія? Адкуль яна зьяўляецца? Што робіць чалавека агрэсіўным?

З гледзішча псыхалёгіі, агрэсія – гэта любое фізычнае або слоўнае дзеяньне, выкліканае варожасьцю й скіраванае на сьвядомую шкоду або зьнішчэньне.

На думку Зыгмунда Фрэйда й Конрада Лорэнца (тэарэтыка ў галіне паводзінаў жывёлаў), у самой прыродзе чалавека закладзены вулканічны патэнцыял агрэсіўнасьці. Фрэйд лічыў, што разам зь інстынктам самазахаваньня нам уласьцівы й самаразбуральны "сьмяротны інстынкт", які мы часта "выкідаем" на іншых людзях у выглядзе агрэсіўнасьці або суцішаем праз грамадзка карысную дзейнасьць, такую як мастацтва альбо спорт. Лорэнц лічыў, што агрэсіўная энэргія ўздымаецца інстынктыўна, сама па сабе, покуль ня будзе задаволеная або стрыманая.

Агрэсіўнасьць праяўляецца найчасьцей у непрыемных сытуацыях. Хаця пакуты часам гартуюць волю, яны могуць абудзіць у чалавеку й нашмат горшыя якасьці. Праведзеныя экспэрымэнты, падчас якіх людзі перажываюць непрыемныя моманты, сьведчаць: той, каго зрабілі няшчасным, робіць невыносным жыцьцё іншых. Недасяжнасьць пэўнай мэты павялічвае сьхільнасьць да агрэсіўнасьці. Агідны пах, сьлякота, цыгарэтны дым ды іншае могуць таксама выклікаць пачуцьцё варожасьці. Дзеці, якія вырастаюць ва ўмовах агрэсіі, часта імітуюць паводзіны, якія бачаць. Падлеткі, сьхільныя да правапарушэньняў, як правіла, атрымлівалі ўяўленьне пра дысцыпліну праз бацькоўскую дзягу. І гэта для іх ёсьць найлепшым прыкладам таго, што агрэсія – унівэрсальны спосаб вырашэньня любых праблемаў.

Яшчэ адна значная крыніца агрэсіўнасьці – тэлевізар. Давайце задумаемся, што мы глядзім? Ды ўсё, ад крымінальных навінаў да крутых баевікоў, дзе забойства ці згвалтаваньне – звычайная зьява. Героі напружаных дэтэктываў смаляць зь пісталетаў амаль бесьперапынна, хаця насамрэч, напрыклад у Чыкага, паліцэйскі страляе адзін раз за 27 год.

Побач з тэлевізіяй ідуць сродкі масавай інфармацыі. Ужо, напэўна, няма ніводнай газэты, у якой не знайшлося б месца для гвалту й варожасьці. Прычым распавядаецца пра такія факты з падкрэсьленай падрабязнасьцю й дакладнасьцю і аздабляецца інфармацыя прафэсійнымі фатаздымкамі.

Мае месца й сэксуальная агрэсія. Прычым за апошнія гады колькасьць згвалтаваньняў значна павялічылася. Паводле карэляцыйных дасьледваньняў, у месцах свабоднага доступу да парнаграфічных і эратычных матэрыялаў колькасьць сэксуальных злачынстваў расьце. На Гаваях, напрыклад, заяваў аб спробах згвалтаваньня ў 1974 годзе было на 900% больш, чым у 1964-м. Пасьля, калі на парнаграфію часова ўвялі абмежаваньні, колькасьць злачынстваў зьменшылася – і зноў павялічылася, як толькі абмежаваньні былі зьнятыя.

Ёсьць небясьпека спрасьціць складаныя прычыны злачыннасьці. Забойствы й напады былі звычайнай зьявай і ў датэлевізійную эпоху. Менавіта рэальны гвалт стаўся крыніцай сюжэтаў для парнаграфічных кнігаў і фільмаў, якія як адлюстроўваюць, так і фармуюць полавыя стасункі ў грамадзтве. Тут варта згадаць адзін просты прынцып: паколькі любое значнае дзеяньне фактычна мае шмат прычынаў, то любое асобнае тлумачэньне, верагодна, будзе спрошчаным. Абагульняючы зьнешнія фактары, якія суправаджаюць сэксуальную агрэсію, трэба мець на ўвазе тое, што кожны фактар сам па сабе мае нязначнае ўзьдзеяньне. Таму й узьдзеяньне сродкаў масавай інфармацыі – гэта толькі адзін з фактараў, што ўплываюць на сьвядомасьць.

Тым ня менш, калі дэманстрацыя гвалту выхоўвае жорсткасьць, калі на экранах і на старонках друкаваных выданьняў прыніжаецца годнасьць чалавека, калі людзі, пасьля прагляду парнаграфіі, успрымаюць згвалтаваньне як дробязь і перастаюць цаніць сваіх партнэраў, то пытаньне пра гвалт ў сродках масавай інфармацыі зусім немалаважнае. Але чалавеку ўласьціва спадзявацца на лепшае, і я спадзяюся, што калі-небудзь грамадзтва азірнецца зь неразуменьнем на тыя часы, калі кінатэатры "забаўлялі" гледачоў сцэнамі гвалту, забойстваў і сэксуальнага прымусу.

***P.S. Як файна, што ў нас зьмяніўся выкладчык па псіхалёгіі і ў мяне зьмянілася тэма майго рэфэрату.***

## Цікавосткі

Што вы адчуваеце, калі вельмі чакаеце нейкае сустрэчы, а яна раптоўна зрываецца? Ці калі вы нагледзелі ў краме прыгожую рэч, а на наступны дзень, калі прыйшлі з грашыма, даведаліся, што яе ўжо хтосьці набыў? Альбо калі вы заплянавалі папіць зь сябрамі піва, а вам нечакана прызначылі перадэкзамэнацыйную кантрольную на заўтра?… Па-навуковаму гэта завецца фрустрацыяй. Пад дадзеным паняткам у псыхалёгіі разумеецца часовы стан эмацыйнага расстройства, выкліканага няўдалай спробай дасягнуць пастаўленай мэты або марнасьцю намаганьняў, прыкладзеных дзеля яе дасягненьня. Фрустрацыя часта суправаджаецца расчараваньнем, раздражнёнасьцю, трывогай і адчаем; яна адмоўна ўплывае на ўзаемаадносіны людзей, калі хаця б адзін зь іх знаходзіцца ў такім стане.

Выяўляцца фрустрацыя можа па-рознаму: у форме апатыі, агрэсіўнасьці, рэгрэсіі (часовага зьніжэньня ўзроўню інтэлектуальнай арганізаванасьці паводзінаў). Агрэсіўныя дзеяньні як рэакцыя на фрустрацыю маюць месца тады, калі ўнутраная напружанасьць чалавека, выкліканая незадаволеным жаданьнем, шукае зьнешняй разрадкі і знаходзіць кропку прыкладаньня ў іншым чалавеку, якога першы ўспрымае як прычыну свайго адмоўнага эмацыйнага стану.

Курт Левін на пачатку 40-х гадоў правёў экспэрымэнт з групай дзяцей школьнага ўзросту. У першы дзень дзецям была дадзеная магчымасьць гуляць у пакоі, поўным розных цацак, прычым усе яны былі некамплектнымі. Прыкладам, стол бяз крэслаў, тэлефонная слухаўка – без тэлефоннага апарату, карабель – без вады і г.д. Нягледзячы на хібы цацак, усе дзеці былі захопленыя гульнёй і замянялі адсутныя прадметы іншымі ці ўяўлялі іх.

На другі дзень сытуацыя зьмянілася. Калі дзеці ўвайшлі ў памяшканьне, дзе яны ўчора гулялі, то заўважылі іншы пакой, які раней быў зачынены. Там знаходзіліся цацкі, падобныя да ўчорашніх, аднак поўнакамплектныя, а таксама й іншыя, яшчэ лепшыя. Толькі дастаць іх не было аніякай магчымасьці, бо новы пакой быў адмежаваны драцяной сеткай.

## Цікавосткі

Паводзіны дзяцей у гэтых умовах рэзка зьмяніліся. Калі раней яны з захапленьнем гуляліся, камунікавалі адно з адным, то цяпер іх група распалася, і яны быццам замкнуліся ў сабе. Адначасова дзеткі страцілі жаданьне й здольнасьць гуляцца. Іх больш не прыцягвалі ўчорашнія цацкі. Многія скіравалі сваю агрэсію на цацкі: пачалі кідаць, ламаць і трушчыць іх. Адзін хлопчык, не зьвяртаючы ўвагі на іншых, у тым ліку прысутных у пакоі дарослых, лёг на падлогу і дэманстратыўна глядзеў у столь; другі пачаў торгаць сетку; трэці бессэнсоўна, без усякай цікаўнасьці перабіраў, перакідаў зь месца на месца старыя цацкі.

Экспэрымэнт паказаў, што ў выніку асабістай фрустрацыі аб'ектам агрэсіўнасьці можа стаць усё, што апынецца пад рукой, у тым ліку й іншы чалавек. Агрэсіўныя рэакцыі, выкліканыя фрустрацыяй, могуць выяўляцца й у міждзяржаўных, міжнацыянальных адносінах, у стасунках паміж рознымі сацыяльнымі групамі. Такога кшталту акты назіраюцца ў пэрыяды сацыяльных і эканамічных дэпрэсіяў, масавай незадаволенасьці людзей умовамі жыцьця. І тады аб'ектамі агрэсіі робяцца людзі, адрозныя паводле нацыянальнасьці, веравызнаньня або сацыяльнага паходжаньня.

У 1961 годзе іншы дасьледчык таямніцаў чалавечай псыхікі – Альбэрт Бандура – правёў ня менш цікавы экспэрымэнт. У даволі прасторным пакоі знаходзіліся разам хлопчык год пяцішасьці, які маляваў штосьці, і мужчына, што грукаў цацкай-неваляшкай аб стол і разьюшана прыгаворваў: "Вось табе!", "Атрымай!", "А ці будзеш болей?" і да т.п. На наступны дзень хлопчыка прывялі ў іншы пакой, дзе знаходзіліся цудоўныя цацкі, але, як толькі ён пацягнуўся да іх, каб пагуляць, яму сказалі, што гэтыя цацкі аддадуць іншым дзеткам. Хлопчыка ж адвялі яшчэ ў адзін пакой, дзе таксама былі цацкі, але ня так шмат і не такія прыгожыя. Сярод апошніх была й тая самая неваляшка. Хлопчык з усіх цацак абраў менавіта яе й пачаў біць ды выгаворваць ёй, дакладна капіюючы жэсты й словы чалавека, які быў зь ім напярэдадні ў пакоі. Такая сытуацыя разыгрывалася неаднаразова, у экспэрымэнце бралі ўдзел як хлопчыкі, так і дзяўчынкі ва ўзросьце 5–6 год. Іх рэакцыя была абсалютна аднолькавай. Расчараваньне дзетак ад таго, што іх пазбаўлялі цудоўных цацак, пераходзіла ў агрэсію, узорам для якой былі паводзіны дарослага чалавека.

4. Зак. 1326

Кумíры

Натальля Маковік

# Першы прэзыдэнт

***28 кастрычніка – Дзень незалежнасьці Чэскай рэспублікі***

*Каб зрабіць сваю дзяржаву незалежнай і дэмакратычнай, прафэсару Томашу Гарыку МАСАРЫКУ давялося стаць прэзыдэнтам.*

Чэхаславаччына магла ператварыцца ў 16-ю рэспубліку СССР. Больш за чатырыста год, аж да пачатку ХХ стагодзьдзя, чэхі й славакі ня мелі незалежнасьці. Абывацеляў ідэя стварэньня сваёй сувэрэннай дзяржавы проста не цікавіла, дый у палітычных колах тагачаснай Аўстра-Вугорскай імпэрыі яна не карысталася папулярнасьцю. Перад самым пачаткам вайны чэская палітыка ў межах Аўстра-Вугоршчыны мела тры кірункі. Так, кансэрватыўная мясцовая шляхта лічыла, што чэхі павінныя быць ляяльнымі да манархіі, тады й імпэрыя будзе ставіцца да чэскіх палітыкаў як да роўных.

Другая палітычная група – рэфармісты – успрымала Аўстра-Вугорскую манархію як гарант абароны ад пангерманізму. Яны выказвалі імкненьне дэмакратызаваць манархію Габсбургаў і пераўтварыць яе ў фэдэратыўную дзяржаву.



Прадстаўнікі антыаўстрыйскай плыні прытрымліваліся думкі пра неабходнасьць выхаду Чэхіі са складу манархіі. На фоне каляніяльных настрояў першых двух палітычных кірункаў ідэалёгія трэцяга выглядала вельмі радыкальна, а таму ірэальна й фантастычна – і, натуральна, шырокай падтрымкай не карысталася. Аднак падчас вайны, калі чэхі змушаныя былі класьці галовы за чужыя інтарэсы, колькасьць прыхільнікаў ідэі незалежнасьці значна павялічылася.

Прычым часам яна набывала даволі дзіўныя інтэрпрэтацыі. Так, Карэл Крамарж, актывіст трэцяй плыні, бачыў у незалежнасьці Чэхіі толькі першы крок да інтэграцыі... з Расеяй. Ён марыў пра Славянскую Імпэрыю – велізарны мэханізм супрацьстаяньня Нямеччыне, куды ўваходзілі б Расея, Польшча, Чэхія, Баўгарыя, Сэрбія й Чарнагорыя. Уладарыць тут мусіў расейскі цар. На тэрыторыі Сла-вянскай дзяржавы павінна было існаваць адзінае войска, дзейнічаць агульная валюта й праводзіцца аднолькавая замежная палітыка. Дзяржаўнай мовай была б, канешне, расейская.

Выратаваў Чэхію ад небясьпечнага саюзу Томаш Гарык Масарык, які ўспрымаў любую імпэрыю – Візантыйскую, Нямецкую ці Расейскую – як апазытум да дэмакратыі.

**Цяжкі шлях да папулярнасьці.** Масарык яшчэ да вайны быў вядомы далёка па-за межамі манархіі Габсбургаў як нястомны й прынцыповы змагар за праўду. Менавіта ён насьмеліўся давесьці, што "цудоўна знойдзены" "Кралядворскі рукапіс", які засьведчыў багацьце гістарычнай спадчыны й старажытнасьць чэскай культуры і стаўся штуршком да пачатку чэскага нацыянальнага Адраджэньня XIX–п.XX стст., быў ня чым іншым, як фальсыфікацыяй, зробленай пісьменьнікам Ёзэфам Ганкам. Згадзіцеся, трэба мець вялікую мужнасьць, каб пайсьці на такое – гэтыя дакумэнты былі сымбалем чэскай нацыянальнай ідэі, ім прысьвячаліся палотны, вершы, музыка ... Учынак Масарыка вельмі паказальны: мінула пара рамантычных уздыхаў над прыгажосьцю роднай мовы – надышоў час рэальных дзеяньняў.

Акрамя таго, Масарык быў адзіным, хто супрацьстаяў хвалі антысэмітызму ў Аўстра-Вугоршчыне, што была выкліканая чуткамі, нібыта нейкую дзяўчыну-хрысьціянку забілі падчас жыдоўскага рэлігійнага сьвята. Нястомны прафэсар навукова давёў, што габрэі ніколі не прыносілі чалавечых ахвяраў.

Абараняў дэпутат Томаш Масарык і харватаў, якіх манархія выракла на сьмерць за "дзяржаўную здраду"—спробу дамагчыся незалежнасьці Харватыі.

Усе гэтыя крокі не дадавалі яму папулярнасьці. Наадварот, студэнты й журналісты, палітыкі й бізнэсоўцы выступалі супраць прынцыповага прафэсара – дэмакрата і абаронцы правоў малых народаў. Дайшло да таго, што Масарык зь сям'ёй нават вымушаны быў эміграваць. Гэта пасьля, калі чэскі народ стоміцца ад вайны й урадавай хлусьні, ён зразумее, што рацыю мае менавіта прафэсар і што лепшага кандыдата на прэзыдэнцкую пасаду ім не знайсьці...



**Чэхаславаччыну стварылі эмігранты.** Як паказала гісторыя, чэхі ўсё робяць на "выдатна". Яны абіраюць найінтэлігентных прэзыдэнтаў, выводзяць на вуліцы сотні тысячаў людзей і ва ўмовах акупацыі пачынаюць гаварыць на роднай мове. Нават эміграцкі асяродак, які амаль паўсюдна характарызуецца закансэрваванасьцю ды схільнасьцю да ілюзіяў, выявіўся ў чэхаў дзейсным і рашучым. Менавіта чэская эміграцыя сваёй актыўнай працай дамаглася незалежнасьці Бацькаўшчыны.

Масарык здолеў аб'яднаць і прыцягнуць да працы ўсіх вядомых чэхаў замежжа – гісторыкаў і астраномаў, пісьменьнікаў і матэматыкаў... Яны даводзілі неабходнасьць стварэньня незалежнай Чэхіі на палітычным і культурніцкім узроўнях, выдавалі на розных мовах газэты пра сваю краіну. Урэшце атрымалася так, што, фактычна, інтарэсы чэскага народа прадстаўлялі эміграцкія асяродкі Францыі, Ангельшчыны, Амэрыкі, Даніі й Расеі. А ў 1915 годзе ў Парыжы быў створаны так званы Чэскі камітэт замежны, які пазьней пераўтварыўся ў Чэскую Нацыянальную Раду.

У красавіку 1918 году Рада, атрымаўшы падтрымку ад ЗША, Францыі, Італіі, Вялікай Брытаніі, ініцыявала сход чэскіх палітычных партыяў, дзе было спавешчана пра аб'яднаньне дэмакратычных сілаў Чэхаславаччыны з мэтай змаганьня за сувэрэнітэт дзяржавы. Затым зьезд інтэлігенцыі прыняў Народную прысягу, згодна зь якой эліта нацыі абяцала "пакласьці... жыцьцё за незалежнасьць Бацькаўшчыны".

Масарык у сваіх прамовах закранаў ня толькі праблему незалежнасьці Чэхіі – ён асабліва падкрэсьліваў права ўсіх народаў на самастойнае разьвіцьцё.

**Чэх – лепшы сябра беларуса.** У сакавіку 1918 году, пасьля абвяшчэньня БНР, Чэхаславаччына была ў ліку дзяржаваў, якія de-jure прызналі незалежную Беларусь. Калі пачалася акупацыя й перасьлед актыўных адраджэнцаў, з выключным паразуменьнем і спагадлівасьцю паставіўся да іх прэзыдэнт Чэхаславаччыны Томаш Масарык. ➔

Кумíры

Ён дазволіў беларусам атрымліваць адукацыю ў сярэдніх спэцыяльных і вышэйшых навучальных установах краіны. Так, ва ўнівэрсітэтах Чэхаславаччыны ву-чыліся Янка Станкевіч, Мікола Абрамчык (трэці прэзыдэнт Рады БНР), Рыдлеўскі і інш. Наогул, беларусаў толькі ў праскім Карлавым унівэрсітэце было некалькі сотняў.

Ня дзіўна, што першым найбуйнейшым асяродкам беларускае палітычнае эміграцыі сталася Чэхія. Туды зьехалі сябры беларускага ўраду, чальцы Рады БНР, частка слуцкіх паўстанцаў, а таксама беларускае студэнцтва, што здабывала тут вышэйшую адукацыю. А Прагу некаторыя беларускія дасьледнікі нават ахрысьцілі "калыскай беларускага Адраджэньня".

Тут у 20-х гг. распачынаюць сваю працу Беларуская Рада, Беларускае культурніцкае таварыства імя Францішка Скарыны, таварыства «Сокал», Беларускі архіў у Празе; тут выдаваліся нават моладзевыя часопісы «Наш прамень», «Іскра Скарыны», «Беларускі студэнт». Сталіца Чэхаславаччыны сталася найбуйнейшым асяродкам нашае моладзі ў сьвеце. У жніўні 1924 году тут утварылася Праскае аб'яднаньне беларускіх студэнцкіх арганізацыяў, якое мела разгалінаваную сетку філіяў, падтрымлівала шчыльныя сувязі з Аб'яднаньнем студэнцкіх арганізацыяў Усходняй Эўропы, шмат у чым каардынавала дзейнасьць беларускага студэнцтва ў Заходняй Беларусі і на эміграцыі.

**Дзень незалежнасьці: ад сьвята да забароненай даты.** 28 кастрычніка 1918 г. Аўстра-Вугоршчына абвясьціла пра свой выхад зь першай сусьветнай вайны. Чэхі вырашылі, што такім чынам імпэратар прызнае іх незалежнасьць, і з тае пары адзначаюць яе ўгодкі менавіта ў гэты дзень. Але адкрыта віншаваць адно аднаго са Сьвятам Незалежнасьці дазвалялася не заўсёды.

Першымі забаранілі ўрачыстасьці фашысты, калі акупавалі Чэхаславаччыну. Тады ж былі разбураныя ўсе помнікі Масарыку, а пра Першую рэспубліку не дазвалялася згадваць нават на ўроках гісторыі... Дарэчы, інтэрпрэтацыя падзеяў 1918 году ў школьных падручніках розных часоў вельмі паказальная.

Так, у "Гісторыі для школак" 1920 году выданьня было проста напісана, што "імпэрыя Аўстра-Вугорская распалася, і дзяржава чэхаславацкая ўступіла ў шэраг эўрапейскіх краінаў". У 1933 годзе аўтары падрабязна апісвалі, як "амэрыканскі прэзыдэнт Уільсан... прызначыў у Празе Народны Ўрад, пераабраў уладу, пазбавіў апошняга Габсбурга Карла трону і абвясьціў нашую краіну самастойнай рэспублікай, а яе прэзыдэнтам найгаднейшага змагара за нашую незалежнасьць праф. Т.Г. Масарыка".

У 1943 годзе падручнік па гісторыі Чэхіі пісалі немцы, таму разьдзел аб Першай рэспубліцы збольшага асьвятляе прычыны паразы Нямеччыны ў першай сусьветнай вайне, пералік якіх нечакана сканчаецца фразай: "Жыд засадзіў нашаму войску нож у сьпіну".

Чэская гісторыя ад камуністаў 1959 году сьведчыць, што "сэнсам такога ўчынку буржуазіі (стварэньня незалежнай Чэхаславаччыны – Н.М.) было імкненьне супакоіць рэвалюцыйны рух чэскага народа і падпарадкаваць яго сабе".

А бліжэй да аксамітавай рэвалюцыі, у 1986 годзе, з усяго разьдзелу пра часы атрыманьня незалежнасьці, які складаўся з 47 старонак, самой незалежнасьці прысьвячаўся адзін сказ: "Народная вызваленчая барацьба чэхаў і славакаў падчас вайны паступова перарасла у народную дэмакратычную рэвалюцыю і пад уплывам Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі выклікала стварэньне Чэхаславацкай рэспублікі".

**Ад Масарыка – да Гавэла.** Чэхі кажуць пра Масарыка: "Лёс быў да яго міласьлівы ў тым, што пан прэзыдэнт не дажыў да Мніховіцкага дыктату, няшчасьцяў другой сусьветнай вайны і трагедыі камуністычнага рэжыму".

Сёньняшні чэскі прэзыдэнт, як і Масарык калісьці, карыстаецца надзвычайнай папулярнасьцю. Адбываецца гэта, відаць, таму, што ў палітыцы Вацлава Гавэла адчуваюцца знаёмыя памкненьні да міру, дэмакратыі й незалежнасьці. Як і Масарык, Гавэл вядомы за мяжой перш за ўсё як "чалавек Сусьвету", што лічыць дэмакратыю і гуманізм духоўнымі асновамі новага грамадзкага ладу.

Пра гэта сьведчыць улюбёны выраз Гавэла: "Праўда і любоў пераможа хлусьню і нянавісьць!", які ня толькі паўтарае, але й пашырае масарыкаўскае "Праўда пераможа!" Пад гэтым лёзунгам сёньня жывуць чэхі, якія традыцыйна прыязна і са спачуваньнем ставяцца да народаў, што йдуць цяжкім шляхам да сваёй незалежнасьці і дэмакратыі.





Сяргей Мікулевіч

# Моладзь – за Беларусь?

Калі пачынаеш аналізаваць прыроду грамадзкай актыўнасьці на Беларусі, можа падацца, што апошняя знаходзіцца ў проста прапарцыйнай залежнасьці ад узросту грамадзянаў. Так, па ўсіх палітычных парамэтрах у нас вядуць рэй пэнсіянэры, якія мараць напрыканцы жыцьця ня толькі дачакацца звароту сьветлага савецкага сацыялістычнага мінулага, але яшчэ й забясьпечыць яго сваім дзецям і, калі атрымаецца, нават унукам. Людзям сярэдняга ўзросту збольшага няма справы ні да таго, хто там што гаворыць, ні да таго, якая гэта ўлётка на слупе вісіць – такая інтэрактыўная пазыцыя можа быць патлумачаная глыбока ўкаранелым комплексам вялікай і магутнай неадказнасьці савецкага чалавека ні за што. Але самай апатычнай часткай грамадзтва, як ні дзіўна, зьяўляецца моладзь. Многія пажадаюць тут мне запярэчыць – маўляў, згадай 12-га кастрычніка, згадай шматтысячныя мітынгі 96-га і закрыйся. А я скажу – згадайце 98-ы, згадайце дзясяткі праваленых пікетаў рэдзенькіх дэманстрацыяў... Бо гаворка вядзецца не пра разавую, "сэзонную" актыўнасьць, а пра пэрманэнтную зацікаўленасьць сваім лёсам і – самае галоўнае – пра веру ва ўласную здатнасьць штосьці зьмяніць, нейкім чынам паўплываць на сытуацыю ў краіне. Хочацца проста паразважаць пра тое, чаму моладзь патроху зьнікае з далягляду апазыцыйнага руху, зьвярнуць увагу на тыповыя пралікі дэмакратычных сілаў у моладзевай палітыцы, пашукаць, урэшце, нейкага выйсьця.

Ці даводзілася вам назіраць за маладзёнам, які ўпершыню ў жыцьці прыйшоў на сядзібу апазыцыйнай партыі? Вочы гараць, рот шырока расчынены, рукі трымцяць ад жаданьня дзейнічаць, каб ужо заўтра зьмяніць сытуацыю да лепшага, юнацкая амбітнасьць перапаўняе... Ён яшчэ ня ведае, што павінен мінуць доўгі час, перш чым каго-небудзь з "новенькіх", незалежна ад іх разумовага й творчага патэнцыялу, проста пачуюць. Зразумела, нельга адразу хапацца за першыя-лепшыя і, у большасьці выпадкаў, мякка кажучы, нясьпелыя ідэі "маладога папаўненьня", аднак кланавая замкнёнасьць, што пануе ў многіх нашых арганізацыях, проста ўражвае. Што б ты ні зрабіў, якую б вар'яцкую, невыканальную на першы погляд, ідэю ні ажыцьцявіў, якую б добрую канфэрэнцыю ні правёў, які б файны канцэрт ні зладзіў – у лепшым выпадку цябе чакае фраза "Ну, прыходзь на наступнае паседжаньне"... Такім чынам, ініцыятыва проста не заўважаецца, а ўсё зробленае тут успрымаецца як само сабой зразумелае.

Аднак вышэйазначаная кланавая замкнёнасьць можа мець і горшыя праявы. Так, напрыклад, у незнаёмым чалавеку могуць убачыць агента мясцовай, расейскай, міжнароднай, а то й міжплянэтнай разьведкі. Што б ты ні сказаў, як бы ні паводзіў сябе – усё роўна будзеш абвінавачаны (часам – проста ў вочы) немаведама ў чым: добра гаворыш па-беларуску? – Навучылі ў ворганах. Дрэнна? – Ды ты манкурт – ня ведаеш роднай мовы! Актыўны занадта? – Правакатар! Пасіўны? – Віж! Іншымі словамі, ня так сьвішчаш і нізка лётаеш. У выніку атрымліваецца, як сказаў адзін літаратар, "тая самая праграма "Рэзананс", толькі з адваротнай вэктарнай скіраванасьцю". Такая падазро-насьць сабе падсьвядомай ахоўнай рэакцыяй апазыцыйнай псыхікі, што засталася шчэ з савецкіх часоў, калі КДБ ламаў чалавечыя лёсы, як запалкі.

Трэцяя прычына, якая выклікае адыход моладзі ад апазыцыі (не кажу – "ад палітыкі", гэта ў прынцыпе немагчыма, бо няўдзел у мерапрыемствах, якія ладзіць адзін бок – ёсьць пасыўнай падтрымкай іншага боку), – частая нескаардынаванасьць дзеяньняў дэмакратычных сілаў, малазразумелыя ўзаемныя прэтэнзіі кіраўнікоў партыяў, упартае нежаданьне апошніх ісьці на кампрамісы – не з рэжымам – з калегамі па барацьбе супраць яго. Гэта такая спэцыфічная хвароба беларускага мэсіянства – кожны выбітны дзеяч лічыць, што ён, і толькі ён, мае маральнае права несьці пакутны крыж адраджэньня нацыі, прычым ніхто не разумее, што рабіць гэта разам было б нашмат лягчэй...

Ізноў жа, хочацца паўтарыцца: мэтай гэтага артыкулу ня ёсьць шальмаваньне ўсіх і ўсяго. Проста нашай апазыцыі варта сур'ёзна задумацца над усім вышэйазначаным, як і шмат над чым іншым. Трэба, як ні банальна гэта гучыць, навучыцца шанаваць і берагчы кожнага чалавека. Канешне, прыемна, асабліва ў маладосьці, адчуваць сябе часткай магутнага грамадзкага мэханізму, аб'яднанага адзінай мэтай і воляй да перамогі. Але калі пачынаеш разумець, што табе ў гэтай складанай машыне адведзеная роля шруба, выпадковае зьнікненьне якога ня будзе заўважанае нікім – вось тут і вынікае гамлетаўскае пытаньне... Думайце – час да выбараў яшчэ ёсьць.

5. Зак. 1326

***ГЭТА сусьветны форум, ад пачатку й да канца зарганізаваны студэнтамі, які адбываецца раз на два гады ў Кёльнскім унівэрсытэце (Нямеччына);***

***ГЭТА абмеркаваньне актуальных праблемаў сучаснасьці, у якім бяруць удзел 400 студэнтаў з больш як 80 краінаў сьвету, 400 бізнэсоўцаў і 130 сусьветна вядомых экспэртаў-выступоўцаў. Больш за 200 міжнародных журналістаў асьвятляюць гэтую падзею;***

***ГЭТА прыз у 2.500 $ аўтару лепшага эсэю па кожнай з прапанаваных тэмаў, які вызначаецца незалежным журы;***

***ГЭТА ТВОЙ ШАНЕЦ ЗРАБІЦЬ ПЕРШЫ КРОК ДА ЗОРНАЙ КАР'ЕРЫ!!!***

# WORLD BUSINESS DIALOGUE*

## ІДЭЯ

У 1984 годзе група нямецкіх студэнтаў стварыла грамадзкую арганізацыю Wirtschaftskongress (OFW). Яе асноўнай мэтай стаўся пошук магчымасьцяў дапасаваць і выкарыстаць тэарэтычныя веды актыўных адораных студэнтаў у сфэры прадпрымальніцтва. Адным з найбольш маштабных праектаў OFW зьяўляецца World Business Dialogue. Гэты ўнікальны форум зьбірае разам ідэі студэнтаў, вынаходніцкі дух і практычныя веды вядучых бізнэсоўцаў, а таксама думку знакамітых навукоўцаў і экспэртаў.

Патронам 8-га World Business Dialogue, што адбудзецца ў красавіку 2001 г. у Кёльне, зьяўляецца канцлер ФРГ – Герхард Шродэр.

## ПАТРАБАВАНЬНІ

Удзельнікі 8-га World Business Dialogue абіраюцца па выніках конкурсу эсэяў. Аўтары лепшых 400 эсэяў будуць запрошаныя ў Кёльн. Абавязковая ўмова – на момант апошняга тэрміну падачы сваёй працы (5 студзеня 2001 г.) Вы мусіце быць студэнтам (альбо асьпірантам)

Эсэй павінен быць прысьвечаны адной з пададзеных ніжэй тэмаў:

***Грамадзтва: "Новыя віды сама-ідэнтыфікацыі ва ўмовах кампутарызаванага грамадзтва"***

Якім чынам "нэтавая" камунікацыя паўплывае ў будучым на міжасабовыя адносіны? Ці застанецца асоба па-ранейшаму актыўнай часткай свайго сацыяльнага асяродку? Ці зьменіцца роля сям'і, школы? Ці будзе прыналежнасьць да пэўнага рэгіёну, дзяржавы ці культурнай групы вызначальнай пры фармаваньні характэрных прыкметаў самаідэнтыфікацыі чалавека? Сёньня гэты чыньнік усё яшчэ зьяўляецца асноўным, аднак у недалёкай будучыні, з надыходам так званай Кібэр-эпохі, ён страціць сваю важкасьць. Адпаведна павінны быць вынайдзеныя новыя формы ідэнтыфікацыі й вызначэньня прыналежнасьці да пэўнага грамадзтва.



***Макраэканоміка: "Магчымасьці дзяржаўнага ўплыву на эканоміку кампутарызаванага грамадзтва"***

Глябалізацыя эканомікі й узьнікненьне транснацыянальных кампаніяў, што ахопліваюць часам цэлыя кантынэнты, ускладае празьмерную нагрузку на асобныя краіны. Непазьбежным у такіх умовах зьяўляецца стварэньне новай канцэпцыі дзяржавы, а таксама рэарганізацыя дзяржаўных задачаў і інтарэсаў. Сучасная дзяржава, здаецца, мае ўсё менш магчымасьцяў для ўмяшальніцтва ў дзейсны рынак.

***Бізнэс: "Структурныя зьмены ва ўнутраных і зьнешніх адносінах сеткі кампаніяў"***

Фундамэнтальныя зьмены ў адносінах паміж кампаніямі, іх канкурэнтамі й кліентамі сталіся вынікам утварэньня адзінай прадпрымальніцкай сеткі. Каб застацца ў бізнэсе, фірмы павінны зьмяняць сваю арганізацыйную структуру. Усё больш і больш кампаніяў – калісьці цалкам самастойных – сумесна са сваімі канкурэнтамі распрацоўваюць праекты, сьціраваныя на глябалізацыю эканомікі. Аднак ня толькі ўнутраныя структуры патрабуюць адаптацыі. Нядаўна акрэсьленыя ўзаеміны "Бізнэс-Бізнэс" і "Бізнэс-Спажывец" таксама ня могуць абысьціся без распрацаваных стратэгічных канцэпцыяў, сфакусаваных на будучыні.

## ПАКЕТ ДАКУМЭНТАЎ, НЕАБХОДНЫ ДЛЯ ЎДЗЕЛУ Ў КОНКУРСЕ

1. Удзельнік павінен абраць тэму ся-род прапанаваных і напісаць па ёй эсэй паводле адной з наступных формаў:

· Дзьве копіі друкаванага тэксту (прыкладна ў 1500 словаў) па-ангельску альбо па-нямецку

· Відэаклiп (працягласьцю прыкладна 15 хвілінаў, запісаны на стандартнай відэастужцы VHS)

· CD-ROM

· Website, прысьвечаны адной з названых тэмаў.

2. Форма заяўкі з фотаздымкам (пажадана – апошняга часу)

3. Рэзюмэ (curriculum vitae) на адну старонку.

**АПОШНІ ТЭРМІН** падачы заявак – 5 студзеня 2001 г. (дата паштовага штэмпеля).

Дакумэнты можна даслаць:

· **Па пошце**

Organisationsforum Wirtschaftskongress (OFW) e.V
International Relations
P.O.Box 27 04 43
50510 Cologne
Germany

: **Па электроннай пошце: essay@ofw.de**

: Запоўніць форму заяўкі ў рэжыме **online (www.ofw.de)**

· **Па факсе**: +49 221 92 18 26-9

## ВЫНІКІ КОНКУРСУ ЭСЭЯЎ

Выніковы адбор адбудзецца напрыканцы студзеня 2001 г. Усім аўтарам дасланых эсэяў будзе па пошце паведамлена рашэньне камісіі.

**УМОВЫ**

Пераможцам конкурсу эсэяў будуць аплочаныя:

· Выдаткі на падарожжа да Кёльну й назад (цягнікам ці самалётам)

· Трохдзённае пражыцьцё ў моладзевым хостэлі ў Кёльне з 3 па 5 красавіка 2001 г.

· Удзел у 8-м World Business Dialogue і Вечарыне нацыяў

· Абслугоўваньне (у тым ліку харчаваньне) падчас усіх падзеяў зьезду

**УНЁСАК УДЗЕЛЬНІКАЎ**

Удзельнікі 8-га World Business Dialogue павінны будуць заплаціць невялікі рэгістрацыйны ўнёсак (50–150 $ у залежнасьці ад краіны, зь якой яны родам). Сума рэгістрацыйнага ўнёску можа быць паменшаная, калі ўдзельнік здолее абгрунтаваць такую неабходнасьць.

**ФОРМУ ЗАЯЎКІ Ў ЭЛЕКТРОННЫМ ЦІ ДРУКАВАНЫМ ВЫГЛЯДЗЕ МОЖНА АТРЫМАЦЬ У РЭДАКЦЫІ ЧАСОПІСУ!**

ТЭЛЕФАНУЙЦЕ: (17) 596 51 10

НЕ ЗГУБІЦЕ СВОЙ ШАНЕЦ!

**** Інфармацыя пра 8-мы World Business Dialogue, зьмешчаная ў CD–6 у верасьні 2000 г., зацікавіла нашых чытачоў. Таму ў гэтым нумары мы падаем пра яго больш падрабязны матэрыял з дэталёвым апісаньнем умоваў конкурсу.***

# K A L A N D A R

**2 лістапада 1923 г.** У СССР і БССР былі створаныя Аб'яднаныя дзяржаўныя палітычныя ўпраўленьні (АДПУ). Гэтыя ўстановы займаліся перавыхаваньнем ворагаў народу пры дапамозе турмаў й канцлягераў. Асабліва зацятых перавыхоўвалі на месцы – без суда й сьледзтва… Празь 10 год – раней за Газданава й Салжаніцына – Францішак Аляхновіч напіша пра свае пакуты ў ГУЛАГу кнігу "У капцюрох ГПУ".

**4–5 лістапада 1605 г.** у Лёндане была раскрытая "парахавая змова". Змоўшчыкі-каталікі на чале з Гаем Фоксам вырашылі ўзарваць Палату супольнасьцяў, што ў будынку ангельскага Парлямэнту. Прычым пайшлі яны самым простым шляхам: арандавалі там падвальнае памяшканьне, заставілі яго бочкамі з порахам і чакалі толькі зручнага моманту, каб бабахнуць як сьлед. Аднак ахова таксама ў шапку ня спала: порах быў знойдзены, змова выкрытая, а яе удзельнікі – пакараныя сьмерцю. З тых часоў штогод 4 лістапада лёнданцы забаўляюцца з пэтардамі й паляць пудзіла Гая Фокса. А ў першы дзень паседжаньня чарговай сэсіі брытанскага парлямэнту сымбалічная ахова ў дасьпехах 17 ст. абыходзіць залю Палаты супольнасьцяў. На ўсялякі выпадак.

**6 лістапада 1851 г.** нарадзіўся Чарльз Доў, заснавальнік сучаснай фінансавай журналістыкі. Акрамя сусьветна вядомага індэксу рынку каштоўных папераў, кампанія "Доў Джонс" прадукуе сёньня тысячы інфармацыйных выданьняў, у тым ліку й флягман фінансавай інфармацыі, штодзённы Wall Street Journal.

**7 лістапада 1917 г.** – падзея, што адбылася ў гэты дзень, падаецца зараз абсурднай. Нельга, аднак, забывацца, што адбылася яна ў эпоху вялікіх вынаходніцтваў і дасягненьняў чалавечага розуму й прадпрымальнасьці, калі сьветлая будучыня здавалася неадменнай і блізкай. А калі яна магчымая праз інавацыю тэхнічную, чаму б не дасягнуць яе шляхам інавацыі сацыяльнай? Усё залежыць ад краіны…

**У 1927 г.** у Менску распачалося будаўніцтва ўнівэрсытэцкага гарадку, што, напэўна, было прымеркавана да 10-х угодкаў Кастрычніцкай рэвалюцыі.

**9 лістапада 1860 г.** У ЗША прыйшоў да ўлады Абрагам Лінкальн, першы прэзыдэнт-рэспубліканец. Ён здолеў скасаваць рабства й перамагчы сэпаратысцкі Поўдзень, захаваўшы цэласьць дзяржавы. У лістападзе 1864 г. Лінкальн быў абраны на другі тэрмін. У інаўгурацыйнай прамове, зьвяртаючыся да амэрыканскай нацыі, ён сказаў: *"Амэрыканцы мусяць перавязаць раны сваёй краіне, забыцца на ўсе крыўды і зрабіць усё мажлівае, каб заваяваць і захаваць справядлівы й доўгі мір у сваёй хаце і зь іншымі народамі сьвету"*. 9 красавіка 1865 г. Абрагам Лінкальн быў застрэлены ў тэатры фанатыкам з Поўдня. У 1922 г. у Вашынгтоне быў збудаваны мэмарыял прэзыдэнту-вызвольніку: шасьціметровы Лінкальн сядзіць у фатэлі й задуменна глядзіць на наведнікаў.

**10 лістапада 1483 г.** нарадзіўся Марцін Лютэр, нямецкі тэоляг. Зусім не рэвалюцыянэр, Марцін Лютэр намагаўся рэфармаваць каталіцтва, скасаваць непатрэбныя інстытуцыі й наблізіць веру да Бога. Вынікі ягонай рэфармацыі сталіся ў поўным сэнсе рэвалюцыйнымі ня толькі для рэлігійнай, але й для эканамічнай арганізацыі заходняга сьвету.

**11 лістапада 1417 г.** на Канстанцкім Саборы Рымскім Папам быў абраны Марцін V (у сьвеце Одда Калон) – чалавек, які яшчэ ў 1414 г. наогул ня меў духоўнага сану, аднак за тры гады здолеў стацца намесьнікам сьв. Пятра. Гэты Сабор быў адным з найбуйнейшых у гісторыі, на ім прысутнічалі 50 тысячаў сьвецкіх і духоўных асобаў, што зьехаліся ў Канстанцу, каб абраньнем новага Пантыфіка спыніць раскол каталіцкай царквы, які выяўляўся ў пікантным суіснаваньні ў адным часава-прасторавым кантэксьце двух Папаў – Рымскага й Авіньёнскага (а на пачатку XV ст. дадаўся шчэ й Пізанскі). Акрамя таго, падчас Сабору быў вынесены сьмяротны прысуд чэскаму прапаведніку Яну Гусу.

**У 1928 г.** скончылася першая сусьветная вайна, якая была хваробай стагодзьдзя нестрыманага прагрэсу. Палітычная сьвядомасьць людзей выявілася непадрыхтаванай да маштабу зьменаў, выкліканых індустрыйнай арганізацыяй грамадзтва. Замест шчасьлівых нацыяў вынікі "узброеныя нацыі", а замест сьветлай будучыні – пекла акопаў і газавых атакаў.

**12 лістапада 1866 г.** нарадзіўся Сунь Ят Сэн, кітайскі рэвалюцыянэр. Увогуле, лістапад – рэвалюцыйны нейкі месяц. Можа, цягне на зьмены ад дрэннага надвор'я?

**14 лістапада 1920 г.** у Слуцку адбыўся зьезд слуцкіх патрыётаў, на якім было вырашана распачаць узброеную барацьбу з бальшавіцкай агрэсыяй. Падзеі, якія адбыліся пасьля, увайшлі ў гісторыю як Слуцкі Збройны Чын.

**17 лістапада 1558 г.** ангельскай каралевай стала Элізабэт I Тудор, якая зьмяніла на гэтай "пасадзе" Марыю Тудор, Крываваю Мэры. За 45 год свайго кіраваньня Элізабэт дасягнула значных посьпехаў, пры ёй Англія ператварылася ў буйную марскую дзяржаву і праз гэта атрымала магчымасьць дыктаваць усяму сьвету сваю волю.

**У 1869 г.** адкрыўся Суэцкі канал, адно з найбольшых дасягненьняў індустрыйнага стагодзьдзя. У хуткім часе па ягоным адкрыцьці аўтар праекту пачаў плянаваць аналягічны канал у Панаме. Аднак мэтады, што спраўдзіліся ў Эгіпце, выявіліся цалкам непрыдатнымі для панамскай прыроды. Будаўніцтва канала на дзесяцігодзьдзі захрасла ў малярыйных балотах і было скончанае значна пазьней урадам ЗША. Толькі ў 1999 годзе гэты апошні аплот каляніяльнага сьвету быў перададзены Панаме.

**20 лістапада 1945 г.** у Нюрнбэргу (Заходняя Нямеччына) распачаўся судовы працэс над кіраўнікамі фашысцкай Нямеччыны, які доўжыўся амаль год і скончыўся ў кастрычніку 1946-га. У выніку дванаццаць кіраўнікоў (сярод іх Рыбэнтроп, Кейтэль, Кальтэнбрунэр, Розэнбэрг, Франк, Зэйс, Інкварт і інш.) атрымалі вышэйшую меру і былі павешаныя ў нюрнбэрскай турме ў ноч на 16 кастрычніка 1946 г. Гэрман Гэрынг скончыў жыцьцё самагубствам напярэдадні пакараньня. СС, СД, гестапа былі абвешчаныя злачыннымі арганізацыямі… Пасьля Нюрнбэргу ў сьвеце застаўся толькі адзін монстар – камунізм, які выявіўся нашмат больш хітрым і жывучым за свайго канкурэнта.

**22 лістапада 1963 г.** у Даласе (штат Тэхас) быў застрэлены прэзыдэнт ЗША Джон Фіцджэральд Кенэдзі. Паводле адной з вэрсіяў, ягоным забойцам быў Лі Харві Освальд, чалавек, які нейкі час жыў у Менску і вучыўся расейскае мовы ў Станіслава Шушкевіча.

**25 лістапада 1500 г.** у Сан-Дамінга, падчас трэцяга падарожжа ў Амэрыку, па абвінавачаньні ў злоўжываньні ўладай быў арыштаваны Хрыстафор Калюмб. Усё абышлося, і праз некаторы час, улічыўшы ранейшыя заслугі пёрад краінай, вялікага генуэзца вызвалілі. А маглі й на вогнішчы спаліць. Свае кайданы Калюмб захаваў на ўсё жыцьцё.

**26 лістапада 1930 г.** нарадзіўся Уладзімер Караткевіч, чалавек, які за адведзеныя яму 54 зямныя гады здолеў зрабіць для беларускай літаратуры больш, чым цэлы Саюз пісьменьнікаў за увесь час свайго існаваньня.

**27 лістапада 511 г.** памёр кароль франкаў Хлёдвіг з роду Мэравінгаў. Хлёдвіг аб'яднаў франкаў, перамог вэстготаў і ў 507 г. заснаваў Франкскую дзяржаву. Акрамя таго, Хлёдвіг прыняў хрысьціянства, зрабіўшы й без таго магутную краіну спадчыньніцай Сьвяшчэннай Рымскай імпэрыі.

**29 лістапада 1830 г.** у Варшаве распачалося антырасейскае паўстаньне. Паўстанцы захапілі Бэльвэдэрскі палац і паспрабавалі забіць тагачаснага кіраўніка Каралеўства Польскага, вялікага князя Канстанціна Паўлавіча (Раманава). Апошні здолеў уцячы. Празь некаторы час расейскія войскі былі выціснутыя з тэрыторыі Польшчы. Увесну 1831 г. паўстаньне перакінулася на Беларусь і Летуву. Ягоныя вынікі былі жорсткімі для нас: рэпрэсіі, эміграцыя паўстанцаў, закрыцьцё Віленскага ўнівэрсытэту, татальная русіфікацыя.

**У 1945 г.** Югаславія была абвешчаная рэспублікай і ўвайшла ў пэрыяд абсалютнай стабільнасьці пад жалезнай рукой маршала Ціта. Нягледзячы на тое, што харват Ціта аднавіў пад выглядам Югаславіі, па сутнасьці, сэрбскую дзяржаву, сэрбскі нацыяналізм быў завуаляваны. Усе праявы этнічнай нянавісьці жорстка караліся, а камунізм адыгрываў ролю афіцыйнай нацыянальнай ідэалёгіі. Пасьля сьмерці дыктатара краіна развалілася проста на вачах.

***Якуб Наваградцаў, Сяргей Кароль***

Каляндар датаў на лістапад–сьнежань, якія варта (а мо й ня варта) адзначаць

*Сяргей Кароль*



# Канец эпохі

Навіны Сі-Эн-Эн, якія я краем вуха слухаю, працуючы над гэтым артыкулам, толькі што абвясьцілі вынікі паўторнага падліку выбарчых бюлетэняў у Флярыдзе: разьбежка паміж кандыдатамі склала ўсяго трыста галасоў. Калі Вы будзеце чытаць гэтыя радкі, канчатковы вынік ужо станецца вядомым. Але зараз ён для мяне яшчэ зьяўляецца таямніцай. Але, што б там ні было, факт застаецца фактам – лёс стомільённых выбараў залежыць ад адзінкавага голасу.

А гэта значыць, што, па-першае, у Амэрыцы мы маем справу з сапраўднай дэмакратыяй. І калі ў большасьці выпадкаў пераможца мае ў запасе 5–10% галасоў выбаршчыкаў, так што колькі тысячаў падробных бюлетэняў прынцыповага значэньня ня маюць, дык магчымая і сёньняшняя сытуацыя. Тэхнічная праблема мае й тэхнічнае вырашэньне – звычайны падлік. І ўзаемныя судовыя іскі, ва ўмовах якіх гэты падлік адбываецца, толькі ілюструюць амэрыканскую сыстэму палітычнага спаборніцтва. Разам з тым, цяжка пазбавіцца ад прадчуваньня – ці ня ёсьць гэтае нараджэньне ў муках новага прэзыдэнта ЗША знакам завяршэньня унікальнай эпохі, эпохі Біла Клінтана? Прыкметай пачатку значна менш адназначнага пэрыяду, што хавае ў сабе зьмены ў структуры й ідэалёгіі амэрыканскага грамадзтва, магчымае пераасэнсаваньне ролі краіны ў сьвеце, а мо й пэўныя эканамічныя цяжкасьці?

Як гэта ня дзіўна, але ніхто ніколі сур'ёзна не вывучаў клінтанізм. Нават да слова такога ніводзін журналіст не дадумаўся. Быць можа, так сталася таму, што рысы эпохі Клінтана (як і, уласна, тое, што мы маем справу менавіта з эпохай) выявіліся не адразу – толькі на пачатку яго другога тэрміну ў Белым Доме – але яе адрозьненьне ад папярэдняга дзесяцігодзьдзя было надзвычайным.

Напрыканцы 80-х, якія прайшлі ў ЗША пад сьцягамі рэспубліканскай партыі, краіна мела вялізную дзяржаўную запазычанасьць і штучна фінансаваную, за кошт вайскова-прамысловых расходаў, эканоміку. Амэрыка была пераважна самадастатковай гаспадар-кай і, у асноўным, выконвала функцыю сусьветнага імпарцёра. У эканоміцы вялі рэй вялікія карпарацыі, а большасьць буйных капіталаў рабілася з паветра – на фінансавых рынках, без рэальнага рэфармаваньня вы-творчасьці. “Рэйганоміка” не вызначалася інавацыямі й разьвіцьцём новых зонаў эканамічнага росту (чаго нельга сказаць пра вайскова-прамысловы комплекс). Васьмідзя-сятыя засталіся ў памяці як эпоха скрайняга эгаізму, надмернага захапленьня грашыма й падвойнага стаўленьня да сацыяльных меншасьцяў. Апошняя рэспубліканская адміністрацыя, адміністрацыя старэйшага Буша, дакіравалася да зьніжэньня росту вытворчасьці, што й дапамагло Клінтану ў 1992 годзе. Падчас выступу на інаўгурацыі ў студзені 1993-га Клінтан сымбалічна прадказаў хуткі надыход







вясны – новага й сьветлага часу для краіны. І гэты прапагандысцкі вобраз нечакана стаўся праўдзівым.

Сёньня, напрыканцы эпохі Клінтана, Амэрыка мае бліскуча збалянсаваны бюджэт, рэкордна нізкае беспрацоўе, умераны кошт капіталу й хвалю прадпрымальніцкай ініцыятывы. Лідэр глябалізацыі, краіна экспартуе тэхналёгіі, кампутары, праграмнае забесьпячэньне й вышэйшую адукацыю. Ня толькі новыя працоўныя месцы, але й новыя арганізацыі й цэлыя сэктары эканомікі расквітнелі ў стэпах аграрнага Поўдня, у Тэхасе Джорджыі, Паўночнай Караліне – штатах, што знаходзіліся ў стагнацыі шчэ з часоў Грамадзянскай вайны. Аазысы новай эканомікі зьявіліся ў занядбаных гарадах прамысловай Поўначы. Выйшла з крызавага стану гарадзкая культура, у пашане абарона навакольнага асяродзьдзя й павага да меншасьцяў. Блаславёныя Інтэрнэтам, штогод нараджаюцца новыя фірмы, новыя прадукты, новыя культурныя сымбалі. Амэрыка прыцягвае таленавітых людзей з усёй плянэты, яна сталася сэрцам сусьветнага касмаполісу. Індустрыя ведаў абапіраецца на разумовыя здольнасьці, інтэлектуальны капітал стаўся важнейшым за фінансавы, супрацоўнікі маюць магчымасьць зьмяніць працу, а высокааплочваемыя кіраўнікі карпарацыяў даюць рэгулярную справаздачу мільёнам інвэстараў – звычайным грамадзянам.

Усё гэта разам складае вобраз эпохі, па маштабах зьменаў і па іх тэмпе тоесны “транспартнай рэвалюцыі” першай паловы XIX стагодзьдзя, індустрыйным пераўтварэньням канца XIX–пачатку XX стагодзьдзя і вяршыні эўфарыі прагрэсу, дваццатым гадам. Дух амэрыканскай прадпрымальнасьці, “пошук шчасьця”, абяцаны Дэклярацыяй незалежнасьці, – на чарговым вітку.

Адміністрацыя, безумоўна, спрыяла прагрэсу, збалансаваўшы



бюджэт разумнай макраэканамічнай палітыкай, падтрымкай дасьледных і тэхналягічных цэнтраў і сьціраванасьцю на эканамічную й палітычную адкрытасьць краіны. Гэта паспрыяла падставовым тэндэнцыям, якія й раней рабілі цуды ў розных краінах па-за палітычным кантэкстам і, верагодна, выявіліся б і самі па сабе. Тым ня менш, над 90-мі лунае адкрытая ўсьмешка Клінтана і гучыць, нібыта за кадрам, ягоны прыязны хрыпаты голас.

Магчыма, Клінтан – і не вялікі дзяржаўны дзеяч, але ён геніяльны палітык, бо быў у стане ня проста аднавіць дэмакратычную партыю, але й знайсьці новую сацыяльную базу, згуртаваць дэмакратаў вакол каштоўнасьцяў, раней ім не ўласьцівых. Абмежаваньні ўрадавых расходаў, ідэя маленькага ўраду, падтрымка свабоднага прадпрымальніцтва, свабодных рынкаў і міжнароднага гандлю сталіся вядомымі як "трэці шлях" і натхнілі левацэнтрысцкія партыі ў Эўропе, ад Блэйра да Шродэра.

На зьнешнепалітычным фронце адміністрацыя дасягнула меншых посьпехаў: фіяска ў Самалі, стратэгічныя памылкі ў адносінах з Расеяй, недастатковая ўвага да Заходняй Эўропы, нятанныя й малавызначаныя функцыі сусьветнага паліцыянта і, нарэшце, нечаканы канфлікт у Югаславіі. Але й у міжнародным пляне дзейнасьць адміністрацыі Клінтана складалася не з адных правалаў. Так, напрыклад, Амэрыка нарэшце зьмяніла зьнешнепалітычную дактрыну з традыцыйнай канцэпцыі раўнавагі сілаў на так званы "парадак новай бясьпекі". Апошні мае гуманітарныя мэты – барацьбу з тэрарызмам і дыктатарскімі рэжымамі, аж да гуманітарнай інтэрвэнцыі, эканамічную й тэхнічную дапамогу й міратворчыя акцыі. Акрамя ролі сусьветнага паліцыянта, Амэрыка зрабілася сымбалем веры для тых, хто параненейшаму шукае свабоду. Амэрыка распачала працэс будаваньня нацыяў, заснаваны на дэмакратыі й рынкавай эканоміцы, ад Югаславіі да Ўсходняга Тымору, набыўшы праз гэта новую ролю.




Бліскучы палітык Біл Клінтан здолеў абыграць апанэнтаў нават у 1994-м, калі яны скарысталіся памылкамі яго першага тэрміну й атрымалі большасьць у Кангрэсе, перахапіўшы традыцыйныя рэспубліканскія каштоўнасьці. Клінтан абвясьціў іх хеўрай звар'яцелых кансэрватараў, што зрываюць рэформы й працу ўраду дзеля "змовы правых сілаў". Рэспубліканская партыя была разьбітая на ўласным полі, і выбары 1996 году яшчэ больш зьнізілі ейны ўплыў. Нават скандал з Монікай не падарваў даверу да прэзыдэнта. На-адварот, пад здаровым лёзунгам "Што яны – ня людзі?" публіка падтрымала Клінтана, зглядзіўшы ў змоўніках, з падказкі Хілары, хцівых ультракансэрватараў. У 1998 годзе пераможаны па ўсіх палітычных парамэтрах лідэр рэспубліканцаў у Сенаце Ньют Гінгрыч быў "вызвалены" ад сваёй пасады. Рэспубліканская партыя апынулася на мяжы развалу.

На гэтым фоне, здавалася б, кандыдат ад адміністрацыі Клінтана павінен быў мець усе перавагі. Але вось нечаканасьць – інтэлектуал Гор змушаны змагацца за кожны голас з дубаватым тэхасцам, які двух словаў зьвязаць ня можа. Чаму?

Я лічу, ёсьць дзьве прычыны. Папершае, сваю ролю тут адыграла дзесяцігодзьдзе эканамічнага ўздыму. Праца, павелічэньне заробкаў і частых інвэстыцыйных укладаў на працягу стольких год, разам зь неверагоднымі інавацыямі й уздымам прэстыжу краіны, выклікалі ў амэрыканцаў эўфарыю. Кожны амэрыканец схільны лічыць росквіт дзевяностых заслугай перш за ўсё ўласнай, потым – старшыні Фэдэральнага Рэзэрву Алана Грынспэна, потым – прадпрымальнікаў зь Сіэтлу й Сіліконавай Даліны і ўжо толькі пасьля – Белага Дому. З прычыны тае самае эўфарыі амэрыканцы кінулі зьбіраць грошы (працэнт зьберажэньняў зараз меншы за нуль), напазычалі вялізныя грашовыя сумы й распачалі пакупкавую гістэрыю, што не мінае вось ужо трэці год. Тое ж пачуцьцё ўпэўненасьці, якое робіць людзей бясконца упэўненымі ў бясконцасьці росквіту, завышае й іх патрабаваньні да адміністрацыі.

Другая прычына цалкам асабістая – сам Эл Гор. Пры сваёй бліскучай адукацыі й досьведзе экспэрт Эл Гор ня мае адной клінтанавай якасьці – здольнасьці да асабістага кантакту. Клінтан – геній міжасабовых зносінаў. Ён знаходзіць кантакт з душой цэлай нацыі, адзываецца на яе боль, праблемы, сумневы й страх, адчувае, калі, што і як трэба сказаць. Ён – які рос бяз бацькі ў перасоўным доміку-трэйлеры (сымбаль беднасьці й бескультур'я) і здолеў зрабіцца доктарам навукаў – нібыта ўвасабленьне амэрыканскай мары. Ягоная здольнасьць інтуітыўна адчуваць публіку, фармаваць палітычны курс на аснове гэтай інтуіцыі, а пасьля пераконваць у правільнасьці абранага шляху – за межамі магчымасьцяў выдатніка, сына сэнатара, прэстыжнага студэнта Гора.

Магчыма менавіта таму Гор ня здолеў паўтарыць цуд трэцяга шляху – знайсьці тую сярэдзіну электарату, якая магла б прыняць цэнтрысцкую клінтанаву мадэль. Замест гэтага Гор прапанаваў сэрыю дзяржаўных праграмаў, якія, здаецца мне, зусім не абапіраліся на погляды лявацкіх дэмакратаў мінулага, хаця пэўнае зьнешняе падабенства было дасягнута. Я асабіста лічу, што праграмы Гора, такія, як усеагульнае мэдыцынскае страхаваньне, дадатковыя затраты на адукацыю й пэнсіі, хутчэй нагадваюць дзеяньні адукаваных урадаў Заходняй Эўропы. Яны стварылі ўражаньне вяртаньня да мінулых часоў вялікага ўраду. Амэрыка гэта не ўпадабала, на чым і сыграў Буш-малодшы.

Углядаючыся ў мільганьне лічбаў на тэлеэкране, я разумею, што завяршаецца эпоха маёй маладосьці. Гэтыя чатыры з паловай гады ў ЗША – для мяне асабіста пэрыяд вельмі важны. Я заўжды буду памятаць, як, стоячы на аўтобусным прыпынку ў Вашынгтоне дажджлівым восеньскім вечарам, я ўглядаўся ва ўтульныя вагні Белага Дому ўдалечыні. Як Вашынгтон дыхаў міжнароднымі праектамі, як Хілары выступала на выпускным у 1997-м. Як я зьбіраў для школьнай газэты меркаваньні сваіх аднакласьнікаў пра палітыку адміністрацыі Клінтана. Як са зьдзіўленьнем даведаўся ад свайго цырульніка-мараканца пра скандал з Монікай, як ня змог праехаць з-за натоўпу журналістаў праз Ўотэргэйт, дзе яна здымала кватэру ўвесну 1998-га. Як сваімі вачыма бачыў росквіт новага Поўдня, адраджэньне іржавай Поўначы. Як па дзесяць разоў на дзень слухаў апошнія навіны зь Югаславіі ўвесну 1999-га. Як правёў амаль палову дзесяцігодзьдзя ў атачэньні аднагодкаў, такіх самых шукальнікаў сусьветнага грамадзянства, што імкнуліся ў Амэрыку з усіх кантынэнтаў. У жыцьці кожнага ёсьць імёны й сымбалі, зь якімі зьвязаная маладосьць. Для мяне яна будзе зьвязаная зь дзесяцігодзьдзем пад'ёму, посьпехаў і глябалізацыі – з эпохай Біла Клінтана.





**Андрусь Белавокі**




UR`JA
"Viesnacuha"
(p) Aria Records
F.A. 2000

Для тых, хто цягнецца ад шаманскіх напеваў гурта UR`JA, іх першы дыск "Viesnacuha", што зусім нядаўна ашчасьлівіў сваім зьяўленьнем паліцы музычных крамаў, сапраўды стаўся доўгачаканай падзеяй, такой сабе квінтэсэнцыяй патэнцыялу лідэра UR`JA Юрыя Выдронка й кампаніі.

Альбом абсалютна не хітовы, але гэта не загана, а хутчэй вартасьць, бо ён атрымаўся роўным і цэльным і слухаецца як адзіны твор. Кампазыцыі "Viesnacuha" нават цяжка назваць песьнямі – яны больш нагадваюць нейкія неверагодныя экспэрымэнты з музыкай, сэнсамі, мэлёдыямі й інструмэнтамі, з каранямі старажытнай беларускай аўтэнтыкі й мультыкультурнымі ўплывамі.

Матэрыял для альбому зьбіраўся падчас этнаграфічных экспэдыцыяў па беларускіх вёсках, таму ў кампазыцыях захаваўся моцны дух беларускай даўніны й сапраўдная аўтэнтыка. Аднак гэта не пазначае, што музыцы UR`JA бракуе сучаснага гуку – у альбоме хапае разнастайных найноўшых тэхна-драм-н-бэйсавых фішак, якія, аднак, не замінаюць адчуваць подых першакрыніцаў. Цяжка даваць нейкае пэўнае вызначэньне, але мне здаецца, што, пры ўсёй сваёй шматплянавасьці й рознастылёвасьці, рокавых матываў "Viesnacuha" мае больш, чым якіх іншых, і асабліва выразна гэта адчуваецца падчас канцэрту. Так, некаторыя кампазыцыі альбому, напрыклад "Зелен дубочак" або "Два брацiка", могуць выклікаць ува ўважлівага слухача асацыяцыі зь Pink Floyd.

Цудоўна аздоблены буклет фірмовага дыску зьмяшчае тэксты ўсіх песьняў, малюнкі Язэпа Драздовіча, а таксама анатацыю на трох мовах – беларускай, нямецкай і расейскай, з чаго можна зрабіць выснову, што UR`JA не жадае марнаваць часу й рыхтуецца да выхаду як на эўрапейскія, так і на ўсходнія абсягі.

Па часе альбом зусім невялікі – усяго 35 хвілінаў, але для тых, хто мае кампутар, ёсьць сюрпрыз: мультымэдыйная частка дыску, дзе месьцяцца фатаздымкі гурта, песьні з тэкстамі, 6 відэатрэкаў, інтэрвію, а таксама шмат іншай карыснай ды цікавай інфармацыі.

Адзін зь лепшых некамэрцыйных дыскаў гэтага году.

*Іnсопnu*

# Хто ёсьць хто

*Добра мець кампутар – прыходзіш дахаты, а ён табе радуецца... Насамрэч, нават у нашай перадавой бананавай рэспубліцы няўхільна расьце колькасьць людзей, якім "камп" – як ром старому Білі Бонсу – замяняе і ежу, і піто, і жонку, і сябра, і ўсё на сьвеце. Нельга, аднак, сказаць, што ўся гэтая велізарная армія вар'ятаў уяўляе сабой шэрую аднародную масу – існуюць некалькі выразных катэгорыяў, якія... Але ня будзем забягаць наперад – усё па парадку.*

***Імбрык*** – істота, якая нават зялёнага ўяўленьня ня мае пра тое, хто такі кампутар і дзе ён жыве. Выпадак сумны, але не безнадзейны. Магічныя словы "нэт", "вінда", "венік", "лінк" і г.д. выклікаюць у імбрыка першабытны жах. Калі чалавек замест таго, каб "пачысьціць" дыскету, адфарматаваў у Вашым кампутары дыск С, можаце сьмела тытулаваць яго вышэйазначаным ганаровым найменьнем, аздобіўшы апошняе адпаведнымі сытуацыі эпітэтамі. Выпадак з клінічнай практыкі: дзяўчына, карыстаючыся пошукавай сыстэмай Нацыянальнай Бібліятэкі РБ, выпадкова націскае Ctrl-Alt-Del, пасьля чаго стомлена ўздыхае: "Ох, як далёка я зайшла...", забірае сумачку і сыходзіць. Дарэчы, на вокладцы найноўшага расейскага падручніка па "Java" намаляваны... звычайны блакітны імбрычак.

***Юзэр*** – чымсьці нагадвае сабаку Паўлава (маецца на ўвазе акадэмік, які займаўся дасьледваньнем рэфлексаў, а не гітарыст "NRM" – гэта два розныя чалавекі, яны нават адзін з адным незнаёмыя). Умее ўключаць і выключаць "машыну", ствараць і зьнішчаць файлы. Часта пакутуе з нагоды зьнікненьня своечасова не захаванай інфармацыі. Вяршыняй майстэрства юзэр лічыць уменьне карыстацца электроннай поштай – удала дасланы ліст робіцца прадметам гонару дзесьці на тыдзень і падставай для амбіцыяў на ўсё жыцьцё. Можа мець нават свой "камп", які звычайна купляе ў так званай "фірме", пераплаціўшы разы ў два-тры за дохлы "монік" і дапатопную "клаву". Пра тое, што такое праграма ("прога"), мае вельмі цьмянае ўяўленьне, але пачуўшы словы "Microsoft" або "Page Maker", старанна робіць разумны твар.

***Малпа*** – спрыт у руках і ніякага падману! Ня дурыць сабе ды іншым галаву высокімі матэрыямі, кіруецца надзвычай прагматычнымі мэтамі – зарабіць як найбольш грошай "на бананы", зь ліхаманкавай хуткасьцю грукаючы па "клаве" ўсімі дзесяцьцю пальцамі. Дабрабыт малпы самым непасрэдным чынам залежыць ад колькасьці знакаў у адзінку часу. Ігнаруе касыя позіркі крутых прагрэмэраў, з пункту гледжаньня якіх набіраць тэксты на КАМПУТАРЫ – тое самае, што забіваць цьвікі мікрахвалёўкай.

***Праграмэр*** – звычайны праграміст са спэцыяльнай адукацыяй альбо геніяльны самародак безь яе, адпаведна. Жыве ў ілюзорным сьвеце ўласных амбіцыяў. Лічыць сябе найкруцейшым у сьвеце "лабухам" і марыць паехаць у Нямеччыну ці Галяндыю (дзе яго, канешне ж, з хлебам-сольлю чакаюць) і падцерці насы ўсім тамтэйшым сваім калегам. Звычайна мае нічым не падмацаваныя амбіцыі web-дызайнэра. Калі раптам хтосьці назаве Вас "імбрыкам" або "малпай" – не пужайцеся, Ваш суразмоўца – праграмэр. І ня злуйцеся таксама – на праграмэраў ня крыўдзяцца.

***Хакер*** – "ты ў нас ня майстар, ты ў нас ламайстар" – гэта пра яго. Лузгае як семкі інтэрнэтаўскія сайты й лякальныя сыстэмы. Сьпіць і бачыць сябе рыцарам бяз страху і... сумленьня, які ламае пэнтагонаўскі кампутар і выцягвае на сьвет божы брудныя пляны імпэрыялістаў. У кашмарах – паўтарае сумны лёс Дэвіда Мітніка. Мае кодэкс гонару і канкрэтную мэту: выратаваць сьвет. У вольны ад асноўнага занятку (гл. папярэдні сказ) час проста зарабляе грошы. Трэба ж і супэрмэну нешта есьці. "Матрыцу" ня любіць.

***Крэкер*** – гэта зусім ня печыва, а такі злосны монстар, які проста "цягнецца" ад самога працэсу разбурэньня (згадайма Жавасьціка з рэклямы). Адчыніўшы які-небудзь сайт, не пакіне там каменя на камяні. Падобны да малога дзіцяці, якое адрывае лялцы галаву, каб даведацца, чаму ў яе вочкі закрываюцца. Ад хакера адрозьніваецца прыкладна тым жа, чым панк – ад хіпі. Дыягназ – невылечны.







# І адкрылася мне даўно забытая ісьціна, або Індыя вачыма паломніка

*Алена Арцімовіч, Сяргей Аграднічэнка*

Аднойчы эўрапейскі турыст сустрэў у Індыі *садху* (сьвятогаадыходніка), які сядзеў пад мангавым дрэвам і бесьперапынна маліўся. Турыст ня вытрымаў і запытаў:

– Шаноўны, чаму ты так доўга сядзіш самотны пад дрэвам і нічога ня робіш?

– А што я па-твойму павінен рабіць?

– Як гэта што?! Ўзяць кошык дый пазьбіраць усе плады з гэтага дрэва!

– І што далей?

– Аднясеш іх на кірмаш, прадасі й атрымаеш грошы.

– І што далей?

– На гэтыя грошы ты збудуеш сабе ўтульны дом з садам.

– І што далей?

– Як што?! Ляжаць у садзе пад дрэвам і атрымліваць асалоду!

– А зараз я па-твойму што раблю?

Гэтая гісторыя надзвычай добра выяўляе адрозьненьне паміж Усходам і Захадам. Заходняя культура паводле сваёй сутнасьці дынамічная й скіраваная на прагрэс, тады як Усход захоўвае й кансэрвуе спаконвечныя завядзёнкі й традыцыі. Матэрыяльнае дамінаваньне займае далёка ня першае месца ў мэнталітэце ўсходняга чала-века і мае нашмат меншае значэньне ў параўнаньні, напрыклад, з духоўнай повязьзю паміж пакаленьнямі. Усходняя культура, у адрозьненьне ад нашай, да сёньняшняга дня застаецца закрытай – нават у краінах даўно й добра



вядомых эўрапейцам. На-прыклад, Індыя – краіна цудаў, містыкаў і ёгаў, пра якую з зацятасьцю й захапленьнем дыскутавалі навукоўцы яшчэ ў часы Аляксандра Македонскага, да гэтай пары застаецца загадкай для шматлікіх дасьледчыкаў, вабіць сваімі таямніцамі мільёны турыстаў і паломнікаў.

## Жыцьцё без правілаў

Першае, што кідаецца ў вочы, калі прыяжджаеш у Індыю, – надзвычайная разнастайнасьць транспартных сродкаў: ад вела- й мотарыкшаў розных мадыфікацыяў ды аўтамабіляў "Амбасадар", надзвычайна папулярных у краіне, да вялізных аўтобусаў.

Рыкша – гэта кіроўца. Веларыкша – напаўровар-напаўкарэта, а мотарыкша – двухмесцавы транспартны сродак з матацыклетным рухавіком і страхой, падобны да маленькага лятальнага апарату з культавай калісьці кінастужкі "Госьця з будучыні". Рух на дарогах Індыі надзвычайна шумлівы й хаатычны. Складаецца ўражаньне, што правілаў ніхто не прытрымліваецца. Дый ці ёсьць яны там? Улюбёным заняткам індыйскіх кіроўцаў зьяўляецца, відаць, націсканьне на кнопку гукавога сыгналу – машыны там гудуць амаль безупынна... Але, нарэшце, цяжкая дарога засталася ззаду, і вы, уладкаваўшыся ў гатэлі, апынаецеся ў руках клапатлівых гідаў і пачынаеце сваю вандроўку па Індыі – краіне, "адкуль ёсьць пайшла" ведычная культура, або, інакш кажучы, цывілізацыя старажытных арыяў...

# Падарожжа ў горад храмаў

Ці маеце вы мару жыцьця? Тады сардэчна запрашаем, таму што толькі ў Індыі растуць так званыя *калпа-ўрыкшы*, або "дрэвы жаданьняў". Жаданьне, напісанае на цыдулцы й прычэпленае да галінкі калпа-ўрыкшы, абавязкова спраўдзіцца, пры ўмове, што яно будзе добрым і чыстым, бяз злосьці й нянавісьці. І больш за ўсё такіх дрэваў ва Ўрындаване – адным з сапраўдных цудаў старажытнай Індыі.



Урындаван – гэта горад пяці тысячаў храмаў, горад прыгажосьці, створаны чалавечымі рукамі на працягу тысячагодзьдзяў! Мастацтва будаўніцтва перадавалася тут з пакаленьня ў пакаленьне. Здаралася, што падваліны будынку закладаў бацька, а крыцу страху даводзілася ўжо сыну ці нават унуку.

Практычна кожны дом ва Ўрындаване зьяўляецца альбо храмам, альбо гатэлем для паломнікаў, якія йдуць з усіх канцоў Індыі пабачыць мясьціны, дзе прайшло дзяцінства Крышны, які нібыта пяць тысячаў год таму зышоў на зямлю ў вобразе сына пастуха. Тут ён гуляў з аднагодкамі й малпамі, пасьвіў цяляты, сустракаўся зь *гопі* (дзяўчатамі-пастушкамі), не забываючыся, разам з тым, і на справы, што ўваходзілі ў ягоную боскую кампэтэнцыю: змаганьне з дэманамі, прадухіленьне стыхійных бедстваў і г.д. І хаця ў 16-гадовым узросце Крышна з Ўрындавану зьнік і больш яго там ня бачылі, да сёньняшняга дня, ступіўшы на гэтую зямлю, можна ад-чуць дзіўную духоў-ную атмасфэру, што пануе тут. У ведычных тэкстах сьцьвярджаецца, што Ўрындаван – гэта месца, якое Шры-Крышна, зыходзячы на зямлю, узяў з сабою з духоўнага сьвету. Зразумець гэта складана, гэта трэба запомніць, тым больш што мы тут маем справу зь ці ні адзіным месцам "Ведаў", якое адзінадушна прызнаюць усе індыйскія духоўныя настаўнікі й філёзафы.



*Вось яно якое – дрэва жаданняў*

Места Ўрындаван знаходзіцца прыблізна за 120 кілямэтраў на поўдзень ад Нью-Дэлі, сталіцы Індыі, і каб патрапіць у яго цераз Нью-Дэлі, трэба або сесьці ў вечна перапоўнены аўтобус, што йдзе ў Агру, дзе знаходзіцца адно зь сямі цудаў сьвету – велічны Тадж-Махал, або ўзяць таксоўку, якая за тры гадзіны давязе вас да Ўрындавану. У мінулым паломнікі, якія хацелі пабачыць Ўрындаван, праходзілі многія тысячы кілямэтраў пехатой, пад бязьлітасным сонцам.



## Карова – сябар чалавека

Стаўленьне да жывёлаў у Індыі асаблівае. Забойства кагосьці з братоў нашых меншых лічыцца гэткім самым грахом, як і забойства чалавека. Болей за іншых шануюцца бык і карова. Карова атаясамліваецца з маці, а бык – з бацькам. Увогуле, паводле сьвятых кнігаў Індыі – Ведаў (адсюль тэрмін – ведычная культура), чалавек мае сем мацерак: родная маці, карміцелька, жонка цара, жонка настаўніка, жонка брахмана (сьвятара), карова й зямля. А забойства маці – найцяжэйшы грэх. Індусы лічаць, што той, хто заб'е карову ці быка, будзе пакутваць на пякельных плянэтах столькі год, колькі шарсьцінак на целе гэтых сьвятых жывёлаў. Звычайная для Індыі карціна: статак пераходзіць дарогу, а кіроўцы спыняюцца й цярпліва чакаюць. Або вось яшчэ адна: на дарозе спакойна сьпіць сабака, і ніхто не насьмеліцца яго патурбаваць...



## Смачна, смачна, смачна...

Яшчэ адным цудам Індыі зьяўляецца ведычнае кулінарнае майстэрства. Яго асноўнай адметнасьцю зьяўляецца тое, што ў рэцэптах страваў няма ні рыбы, ні мяса, ні яек, то бок яны выключна вэгэтарыянскія. Адсутнасьць такіх неабходных, на наш погляд, інгрэдыентаў зусім не зьбядняе рацыён індусаў – ведычная кухня налічвае многія тысячы страваў: адных толькі слодычаў – сотні й сотні рэцэптаў. Усе маюць незвычайныя назвы – сандэі, расагулы, бурфі, джалебі, самосы, пакоры, халава й шмат якія іншыя. Індыйскія кухары ведаюць незьлічоную колькасьць разнастайных прыправаў, пра якія ў Эўропе нават ня чулі. Многія зь іх маюць ня толькі выкшталцоныя смакавыя адценьні, але й лекавыя ўласьцівасьці – дапамагаюць падчас разладаў страўніка, захворваньняў крыві, нават перад родамі. Апошнім часам шмат якія з гэтых спэцыяў пачалі зьяўляцца й у нас – асафэтыда, куркума, тамарынд, фэнхэль, шамбала.

Гэтаксама, як і мастацтва будаўніцтва, кулінарныя таямніцы захоўваюцца й перадаюцца з пакаленьня ў пакаленьне.

## Кірмаш і малпы

Індыя – краіна супярэчнасьцяў. Побач з прыгажосьцю й бляскам багацьця можна пабачыць жудасную галечу і бруд. Побач з міралюбствам і чысьцінёй – лаянку й разбэшчанасьць. Але ў любым выпадку жыцьцё індусаў цячэ вельмі павольна. Яны нікуды не сьпяшаюцца. І заўжды ўсьміхаюцца. Калі вы паспрабуеце пагутарыць зь імі, будзеце зьдзіўленыя іх запаволенасьцю... Затое ў Індыі надзвычай кемлівыя й нахабныя малпы. Міргнуць не пасьпееш, як яны скрадуць вашыя акуляры, капялюш або яшчэ што-небудзь. Калі вы маеце добрую рэакцыю, ёсьць надзея, што злодзей будзе злоўлены перш, чым пасьпее абмяняць вашыя рэчы на бананы ў гандляра.



Індыйскі кірмаш – надзвычай тлумнае месца. Калі патрапіш туды– нагледзішся й наслухаешся на ўсё жыццё. Акрамя таго, заўважыўшы эўрапейца, да вас з усіх бакоў пацягнуцца гандляры чорт ведае чым, жабракі, дзеці й калекі за ўбожнінай. Усе кошты адразу падвысяцца разы ў чатыры, а



вы сыйдзеце, купіўшы тое, што вам зусім ня трэба. Таму сьмела спрачайцеся і, зыходзячы з крамкі, зірніце на гаспадара: калі ён будзе змрочным як сьнегавая хмара – значыць вы зрабілі выгодную пакупку, калі ж наадварот – будзе ажно сьвяціцца ад шчасьця, не сумнявайцеся: ён вас абдурыў.

Каб паразумецца зь індусамі, дастаткова сярэдняга веданьня іх мовы. Галоўнае – інтэнсыўна жэстыкуляваць. У любым выпадку да індусаў дойдзе. Слова "грошы" яны разумеюць на ўсіх мовах.

## Сем мэтраў прыгажосьці й жаноцкасьці

Хто з нас хаця б раз у жыцьці не захапляўся індыйскімі фільмамі, зь іх яскравай экзатычнасьцю вопраткі й упрыгожаньняў, надзвычайнай жаноцкасьцю й прыроднай мяккасьцю гераіняў! Многія жанчыны хацелі б пабачыць сябе ў індыйскім адзеньні, якое мае кароткую й чароўную назву – сары. Часам здаецца, што няма ў сьвеце адзеньня, якое б больш пасавала да любой жаночай фігуры, чым сары – гэты адмысловым чынам абматаны вакол цела кавалак тканіны даўжынёй 5–7 мэтраў. Хударлявую жанчыну сары робіць крышачку паўнейшай, а ў поўнай хавае недахопы фігуры. І ўсім без выключэньня надае асаблівую прывабнасьць. Сары абмотваюць вакол цела так, што адзін канец застаецца вольным. Яго можна перакінуць праз адно ці абодва плечы, накрыць ім галаву або схаваць твар ад позіркаў мінакоў. Традыцыйная вопратка індыйскай жанчыны налічвае больш за 5 тысячаў год. Звычайна яна робіцца зь яскравых тканінаў, упрыгожаных па краёх арнамэнтам або кветкамі. Тканіны белага колеру, падобныя да марлі, носяць толькі ўдовы й вельмі бедныя жанчыны.

Усё часьцей сары можна сустрэць у Эўропе, дзе яно набыло надзвычайную папулярнасьць. Лічыцца, што сары вельмі добра насіць падчас цяжарнасьці – яно як бы абараняе немаўля і парадзіху ад злых духаў.

## Эпілёг

Нават калі ўсё жыцьцё вандраваць па Індыі, ня здолееш зьведаць тысячнай часткі ўсёй яе прыгажосьці й велічы, а таксама тысячнай часткі яе бруду й галечы. Што ж, кожны бачыць толькі тое, што хоча бачыць. Але акунуўшыся ў духоўную атмасфэру гэтай краіны, вы будзеце зачараваныя й станецеся сьведкамі чагосьці незвычайнага й загадкавага, сьведкамі таямніцы, якая на некалькі імгненьняў прыадчыняе сваю завесу, каб потым зноўку зьнікнуць у глыбіні тысячагодзьдзяў.







Доктар Язэп Кхмэр

*Паводле характару выдзяленьня салянай кісьлі чалавек блізкі да драпежнікаў, што маюць магутны ахоўны бар'ер, дзякуючы якому страўнік зьберагаецца ад самаперававарваньня.*

# Гастрыт



Словы, абраныя ў якасьці эпіграфу, падаюцца мне вельмі сымбалічнымі. Хоць і прагнем мы адмежавацца ад братоў нашых меншых рознымі эвалюцыйнымі тэорыямі, але ўсё-ткі час ад часу даводзіцца пагаджацца з тым, што толькі дзякуючы спадчыне, ад іх атрыманай, можам гэтыя самыя тэорыі выдумляць.

Пакажыце мне, калі ласка, хоць аднаго студэнта, які б за пяць (як мінімум) гадоў навучаньня, жывучы на стыпэндыю, бяз гэнага ахоўнага бар'еру не спазнаў працэсу самаперававарваньня страўніка. У некаторых, напэўна, да дзяржіспыту толькі вочы ў акулярах і дацягнулі б. Але ж трымаемся, на злосьць ворагам. Ды яшчэ як! Напрыклад, адзін з выпускнікоў Віцебскага мэдычнага інстытуту падчас выпускнога балю, схаваўшыся ад калегаў пад сталом, зьеў свой навюткі чырвоны дыплём. І нічога! Страўніку – хоць бы што! З галавою там праўда нейкія праблемы былі, але ж не пра галовы сёньняшняя размова.

Яна – пра самую спакутаваную частку студэнцкага арганізму – пра страўнік. На жаль, магчымасьці нават самых моцных ахоўных мэханізмаў не бязьмежныя, і таму шмат хто з нас, у нагрузку да дыплёму, атрымлівае й

хранічны гастрыт. На што тады толькі не пачуеш нараканьняў! На сталоўкі, на якасьць прадуктаў, на жуйкі, цы-гарэты, аль-каголь, каву, стрэсы, лекі – усяго й не пералічыш…

Насамрэч, каб "зарабіць" гастрыт, трэба папрацаваць. Ахоўны бар`ер сьлізістай абалонкі ўражвае. Нягледзячы на тое, што ўсярэдзіне страўніка pH часам даходзіць да 2,0 (жывая кісьля), на паверхні страўнікавых клетак гэты паказьнік трымаецца на ўзроўні 6,0–8,0. Каб прабіць такую браню, аднаго нерэгулярнага хар-чаваньня ў грамадзкіх сталоўках будзе малавата. На сёньняшні дзень няма аніводнага пераканаўчага факту на карысьць таго, што характар ежы, асаблівасьці кухні, ужываньне спэцыяў, кавы ці моцнай гарбаты могуць выклікаць разьвіцьцё хранічнага гастрыту. А ежа, небагатая на вітаміны, насуперак распаўсюджанаму стэрэатыпу, нават мае кампанэнты, карысныя для нармальнага страваваньня (прыкладам рыбафлявін ці ніацын). Дарэчы, трэ-ба быць вельмі асьцярожным з ужываньнем супрацьзапаленчых прэпаратаў (асьпірын, індамэтацын і г.д.). Ужываньне асьпірыну на працягу году выклікае эразыўна-язвавыя зьмены ў 85% дагэтуль здаровых людзей. Давядзецца абіраць паміж падвышанай тэмпэратурай і дзіркай у страўніку.

***У сярэднім за содні чалавек робіць 600 глыткоў. На што іх лепей скарыстаць – на спажываньне прысмакаў ды ласункаў ці на глытаньне сьлінкі ды пігулак?***

Пойдзем далей. Нікацін. Ня ведаю, ці то на шчасьце, ці то на гора, але страшных аповядаў пра дзіравыя, як рэшата, страўнікі аматараў паленьня у мяне няма. Той, хто памяркоўна ўжывае гэтую атруту, мае на гастрыт гэткія ж шанцы, як і прыхільнік здаровага ладу жыцьця. Праўда, трамбоз, з далейшай ампутацыяй нагі, хутчэй будзе ў першага, але ж гаворка ў нас не пра ногі.

Наступны крок пасьля нікаціну – усе здагадаліся: алькаголь. Міні-сэнсацыя: істотнай розьніцы паміж выпівохамі й цьвярэзьнікамі – што тычыцца ўнутры-страўнікавых пертурбацыяў – няма. Гэта, зразумела, не пазначае, што можна жлукціць ўсё, што гарыць, у неверагоднай колькасьці і ніякай шкоды шлунку ад гэтага ня будзе. А вось выпіць крыху добрага віна нават карысна для стымуляцыі сокавыдзяленьня. Бачыце, што атрымліваецца? Выяўляецца, можна зьесьці піцу з чылі-кетчупам, выпіць вінца ці піва, выпаліць пасьля гэтага цыгарэту – і нічога за гэта ня будзе!

***Пры нагодзе сярэдні студэнцкі страўнік (2x0,5 піва ці пачак пяльменяў) можа утылізаваць цалкам неверагодныя, для нармальнага чалавека, рэчывы.***

Ну што, расчуліліся? Файна было б скончыць артыкул такім ідылічным малюнкам, аднак ім завяршаецца толькі яго пазытыўная частка.

Пачынаецца частка рэалістычная. А рэаліі гэткія, што нават бяз кетчупу, воцату, гарэлкі ды цыгарэтаў, зьеўшы на скорую руку які-небудзь хот-дог, мы часам адчуваем цяжар, разьдзіманьне, пякучку, нудзеньне ці боль "пад лыжачкай". Гэта ўсё вітаньні ад новай сяброўкі вашага страўніка, якая мае прыгожае замежнае імя – helicobakter pilori. Менавіта гэтая бактэрыя лічыцца зараз адзіным статыстычна даказаным агентам, што выклікае разьвіццё хранічнага гастрыту. На яе сумленьні 70% ўсіх запаленьняў страўніка. Трэба ўлічваць, што гастрыт, як і любая іншая хвароба, што распаўсюджваецца кантактным шляхам, проста цьвіце й пахне ў так званых замкнёных калектывах. У нашым выпадку гэта інтэрнат. Так што лёзунг "Мыйце рукі перад ядой" робіцца яшчэ больш актуальным.Не палянуйцеся ўжо лішні раз выканаць правілы гігіенічнае бясьпекі.

Любую інфэкцыю прасьцей прадухіліць, чым пасьля вылечыць. А калі ўсё ж такі не пашанцавала і шчыльныя сувязі ў замкнёным калектыве зрабілі сваю цёмнаю справу – вам патрэбна ве-даць наступнае: па-водле новых канонаў, асноўным мэтадам лячэньня зьяўляецца антыбактэрыяльная тэрапія. Як пісаў Кандрат Крапіва, "Будзем жывы – будзем рады лёсу маладому, а пакуль ня зьнішчым гада – не чакай дадому". Ніводная дыета не ўратуе вас, прыкладам, ад ангіны. Гэтаксама й з гастрытам. Асноўны цяжар змаганьня кладзецца на антыбіётыкі. Як бы дзіўна гэта ні гучала, але ўсе абмежаваньні рацыёну носяць другасны, дапаможны, а часьцей за ўсё яшчэ й змушаны характар. Чалавека, які пакутуе на гастрыт, ня трэба ўгаворваць ня есьці смажаныя ці вэнджаныя стравы, добра прыпраўленыя перчыкам. Яго да гэтага нават не прымусіш. Тое, што не ўплывае на здаровы страўнік (дыета, тытунь, алькаголь і г.д.), вельмі адчувальна б'е па страўніку пашкоджаным.

***Адзін з выпускнікоў Віцебскага мэдычнага інстытуту падчас выпускнога балю, схаваўшыся ад калегаў пад сталом, зьеў свой навюткі чырвоны дыплём.***

Так што думай-це самі. У сярэднім за содні чала-век робіць 600 глыткоў. На што іх лепей скарыстаць – на спажываньне прысмакаў ды ласункаў ці на глытаньне сьлінкі ды пігулак?





## Шаноўнае спадарства!

Суполка **Задзіночаньня Беларускіх Студэнтаў** Менскага мэдычнага інстытуту ды **Асацыяцыя Беларускіх Мэдыкаў** распачынаюць ***Рэспубліканскі конкурс студэнцкіх твораў імя Францішка Савіча па гісторыі беларускай мэдыцыны і мэдычнай адукацыі для студэнтаў-мэдыкаў ды навучэнцаў мэдычных вучэльняў.***

Да ўдзелу ў конкурсе прымаюцца літаратурныя, мастацкія ды музычныя творы студэнтаў і навучэнцаў па наступных намінацыях:

- Гісторыя мэдыцыны Беларусі.
- Разьвіцьцё мэдычнай адукацыі на Беларусі.
- Слынныя постаці беларускіх мэдыкаў.
- Плюсы выкарыстаньня беларускае мовы ў сфэры мэдыцыны.
- Беларуская народная мэдыцына.

Працы прымаюцца з **1 лістапада** 2000 году да **31 сакавіка** 2001 году.

Патрабуюцца наступныя зьвесткі пра аўтара(ў):
1) імя ды прозьвішча;
2) навучальная ўстанова, курс, спэцыяльнасьць;
3) кіраўнік працы (калі быў);
4) кантактны адрас і тэлефон;

У красавіку кваліфікаванае журы, у якое ўваходзяць выкладчыкі мэдычных ВНУ, навукоўцы, літаратары і іншыя аўтарытэтныя асобы, вызначыць аўтараў лепшых працаў.

Завершыцца конкурс правядзеньнем выніковай аднадзённай канфэрэнцыі, якая зьбярэ ўдзельнікаў конкурсу ды ўсіх зацікаўленых студэнтаў, дзе выступяць аўтары лепшых працаў і адбудзецца узнагароджаньне пераможцаў каштоўнымі падарункамі. Шмат прыемных сюрпрызаў ды неабмежаванае задавальненьне арганізатары гарантуюць.

**Больш падрабязныя зьвесткі пра конкурс па наступных каардынатах:**
**Тэл./факс (8 017) 232 27 43 (Андрэй Вітушка ці любы сябра суполкі ЗБС МДМІ).**
**А/с 493, 220050, Менск.**

Вул. Дарашэвіча 4-2,
220013, Менск

тэл. (8 017) 236 18 77 – Андрэй Вітушка

e-mail: mdmi@bsa.org.by

Старшыня суполкі ЗБС МДМІ Андрэй Вітушка

Рэшта

*Забава Народная*

# Гульні для дарослых

*Рэдакцыя «CD» крыху запозьнена віншуе з Днём студэнта ўсіх, хто лічыць гэтае сьвята сваім. Шчыра спадзяемся, што сумаваць вам не давялося. А для тых, каму 1/365 часткі году катастрафічна не хапае, каб напоўніцу адчуць сьвята, для тых, чыя душа просіць працягу, мы з гэтага нумару пачынаем друкаваць цыкл артыкулаў, прысьвечаных МОЛАДЗЕВЫМ ЗАБАВАМ. Як бывае сумна на вечарыне, калі показкі распаведзеныя, навіны абмеркаваныя, танцы-скокі надакучылі... Тады ратуе агульнавядомая гульня "Кракадзіл" (пантамімічная дэманстрацыя загаданага слова). Але існуе цэлы шэраг нашмат цікавейшых гульняў, пра якія сёньня мы вам і распавядзем.*

## "МЯЧЫК"

Гульцы падзяляюцца на пары (хлопец + дзяўчына), становяцца сьпінамі адно да аднога. Паміж удзельнікамі кожнай пары (якраз у тым месцы, дзе сьпіна губляе сваё шляхетнае найменьне) заціснуты мячык. Трэба, без дапамогі рук, акуратна спусьціць яго дадолу. Перамагае тая пара, у якой мячык, дакрануўшыся да падлогі, не адкаціўся ўбок.

## "АПРАНАХІ"

Дзяўчына трымае у правай руцэ скручаную стужку. Хлопец вуснамі бярэ канчук стужкі і, не дакранаючыся рукамі, абматвае партнэрку. Выйграе той, у каго "адзеньне" атрымалася прыгажэйшае, ці той, хто хутчэй выканаў заданьне.

## "ВЯРОЎКА"

Фармуюцца дзьве каманды: з хлопцаў і дзяўчат. Па сыгнале каманды пачынаюць здымаць зь сябе рэчы (якія захочуць) і зьвязваць у доўгую вяроўку. Пераможа тая каманда, у якой вяроўка атрымаецца даўжэйшая.

## "НЕЗВЫЧАЙНЫЯ ФІГУРЫ"

На падлозе малюецца квадрат памерам прыкладна 2,5 на 2,5 м і падзяляецца на 16 пранумэраваных клетак. Двое заходзяць на яго, і вядучы называе кожнаму зь іх частку цела (звычайна абмяжоўваюцца пяцьцю: галава, рукі, ногі) і нумар клеткі, у якую гулец мусіць перамясьціць названую частку свайго цела. Вядучы мусіць мець пачуцьцё гумару і фантазыю. Прайграе той, каму не ўдаецца чарговая пастава. Могуць гуляць 3–5 чалавек адначасова.

## "МАРГАЛЫ КЛЯСЫЧНЫЯ"

Дзяўчаты сядаюць на крэслы, пастаўленыя ў кола. Хлопцы стаяць у іх за сьпіною. Адзін з хлопцаў ня мае пары. Ягоная задача – непрыкметна падморгваць дзяўчатам. Тая зь іх, якая заўважыць канвульсыўнае торганьне павека самотнага маладзёна, павінна хуценька перасесьці на вакантнае крэсла. Яе ранейшы кампаньён, калі ня хоча страціць сяброўку, мусіць заўважыць падступныя маніпуляцыі й пасьпець утрымаць яе, паклаўшы рукі на плечы. Калі не пасьпявае – застаецца без пары і сам пачынае падморгваць.

## "ДЗЬВЕ ЛІТАРЫ"

Першы ўдзельнік кажа слова (назоўнік у адзіночным ліку). Наступны ўдзельнік на дзьве апошнія літары гэтага слова прыдумвае сваё, але не абвяшчае яго, а тлумачыць апісальна трэцяму. Той, у сваю чаргу, калі зразумее, што гэта за слова (можна задаваць пытаньні), таксама павінен не казаць яго ўслых, а прыдумаць на дзьве апошнія літары сваё слова і тлумачыць наступнаму ўдзельніку... І так – да бясконцасьці, покуль не надакучыць. Калі на дзьве апошнія літары немагчыма прыдумаць слова – можна прыдумаць на дзьве перадапошнія.

## "ЦУКЕРАЧКІ"

Выдумляецца цяжкае для вымаўленьня спалучэньне словаў, накшталт "мудрагелістае балбатаньне". Абіраюцца ўдзельнікі. Трэба спачатку вымавіць гэта з адной цукеркаю ў роце, потым з дзьвюма, з трыма і гэтак далей. Перамагае той, хто вымавіць патрэбнае спалучэньне разборліва з большай колькасьцю цукерак. Раю гэтую гульню ўсім аматарам салодкага: калі й не пераможаце, дык хоць наясьцеся ўволю! CD



# Тэст

*Флегматычны чалавек рэдка бывае цікавым суразмоўцам, але з надмерна агрэсіўным, які кідаецца на цябе, як тыгр з засады, таксама непрыемна мець справу.*

*Гэты тэст дапаможа вызначыць, наколькі чалавек карэктны ў адносінах да іншых. Каб вынікі былі больш аб'ектыўнымі, можна наладзіць узаемную праверку, калі калегі адказваюць на пытаньні адно аднаго. Гэта дапаможа зразумець, наколькі рэальна яны сябе ацэньваюць.*

Падкрэсьліце адказ:

***I. Ці схільныя Вы шукаць шляхі да замірэньня пасьля чарговага канфлікту на працы?***

1. Заўсёды
2. Часам
3. Ніколі

***II. Як Вы паводзіце сябе ў крытычнай сытуацыі?***

1. Ледзьве стрымліваюся
2. Застаюся спакойным
3. Губляю кантроль над сабой

***III. Якім лічаць Вас калегі?***

1. Самаўпэўненым і зайздросьлівым
2. Прыязным
3. Спакойным і незайздросьлівым

***IV. Як Вы адрэагуеце на прапанову заняць адказную пасаду?***

1. Пагаджуся з пэўным хваляваньнем
2. Пагаджуся адразу
3. Адмоўлюся дзеля асабістага спакою

***V. Як Вы адрэагуеце, калі хтосьці з калегаў без дазволу возьме з Вашага стала паперу?***

1. Выдам і ў хвост і ў грыву
2. Прымушу аддаць
3. Спытаю, ці ня трэба яму яшчэ што-небудзь

***VI. Якімі словамі Вы сустрэнеце мужа (жонку), калі ён (яна) прыйшоў(ла) з працы пазьней, чым звычайна?***

1. "Што гэта цябе так затрымала?"




Рэшта

2. "Дзе цябе чэрці носяць?"
3. "Я ўжо пачаў(ла) хвалявацца".

***VII. Як Вы паводзіце сябе за рулём аўтамабіля?***

1. Намагаюся абагнаць машыну, якая "паказала мне хвост"
2. Мне ўсё роўна, абыходзіць мяне хто-небудзь ці не
3. Я еду з такой хуткасьцю, што ніхто дагнаць ня можа

***VIII. Якімі Вы лічыце свае погляды на жыцьцё?***

1. Збалянсаванымі
2. Легкадумнымі
3. Украй жорсткімі

***IX. Што Вы робіце, калі штосьці не атрымліваецца?***

1. Намагаюся абвінаваціць каго-небудзь іншага
2. Прымаю ўсё, як ёсьць
3. Раблюся больш асьцярожным

***X. Як Вы ставіцеся да зьяваў, якіх не разумееце?***

1. Намагаюся ня мець зь імі справы
2. Спрабую разабрацца
3. Лічу, што яны ня маюць права на існаваньне

***XI. Што Вы адчуваеце, калі месца, на якое Вы паклалі вока, заняў іншы?***

1. "І навошта толькі я на гэта нэрвы траціў?"
2. "Відаць, ягонае аблічча шэфу больш падабаецца"
3. "Нічога, можа ў наступны раз атрымаецца"

***XII. Як Вы глядзіце фільм жахаў?***

1. Баюся
2. Сумую
3. Атрымліваю праўдзівае задавальненьне

***XIII. Што Вы зробіце, калі з-за праблемаў з транспартам запозьніцеся на важнае паседжаньне?***

1. Буду нэрвавацца падчас паседжаньня
2. Зраблю спробу выклікаць спагаду калегаў
3. Настрой сапсуецца

***XIV. Як Вы паводзіце сябе падчас спартовых спаборніцтваў?***

1. Абавязкова намагаюся перамагчы
2. Проста атрымліваю асалоду, адчуваючы здароўе і моц уласнага цела
3. Вельмі злуюся, калі не шанцуе

***XV. Як Вы адрэагуеце на дрэнны сэрвіс у рэстарацыі?***

1. Прамаўчу, каб пазьбегнуць скандалу
2. Паспрабую вырашыць канфлікт на месцы
3. Зьвярнуся ў адміністрацыю

***XVI. Як Вы будзеце сябе паводзіць, калі Ваша дзіця пакрыўдзяць ў школе?***

1. Паразмаўляю з настаўнікам
2. Палаюся з бацькамі крыўдзіцеля
3. Параю дзіцёнку адказаць тым самым

***X VII. Які Вы, па-вашаму, чалавек?***

1. Сярэдні
2. Самаўпэўнены
3. Мяне нішто ня спыніць

***XVIII. Як Вы адкажаце на прабачэньні падначаленага, зь якім сутыкнуліся ў дзьвярах установы?***

1. "Прабачце, гэта я вінаваты"
2. "Нічога страшнага"
3. "А больш уважлівым Вы быць ня можаце?"

***XIX. Як Вы адрэагуеце на газэтны артыкул пра выпадкі хуліганства сярод моладзі?***

1. "І калі толькі мы дачакаемся канкрэтных мераў?"
2. "Варта было б увесьці цялесныя пакараньні"
3. "Нельга ўсё валіць на моладзь, вінаватыя й выхавацелі!"

***XX. Які прадстаўнік жывёльнага сьвету найбольш Вам імпануе?***

1. Тыгр або леапард
2. Свойская котка
3. Мядзьведзь



*Цяпер уважліва пераглядзьце падкрэсьленыя адказы. Складзіце нумары адказаў.*

## Вынікі:

**36–44 балы**. Вы ў меру агрэсіўны, але даволі пасьпяхова йдзеце па жыцьці, бо маеце дастаткова здаровага эгаізму й самаўпэўненасьці.

**45 і больш балаў.** Вы занадта агрэсіўны і пры гэтым часта бываеце неўраўнаважаным і надмерна жорсткім у адносінах да іншых. Вы спадзяецеся дасягнуць вяршыні, карыстаючыся ўласнымі мэтадамі, і дабіцца посьпеху, ахвяруючы інтарэсамі сямейнікаў і супрацоўнікаў. Таму Вас не зьдзіўляе агульная нядобразычлівасьць і Вы намагаецеся пры выпадку адпомсьціць.

**35 і менш балаў.** Вы надмерна міралюбны, што абумоўлена недастатковай упэўненасьцю ва ўласных сілах і магчымасьцях. Гэта, канешне, не пазначае, што Вы, нібы травінка, згінаецеся ад найменшага ветрыка... І ўсё ж мець больш рашучасьці Вам не зашкодзіць!

**Калі па сямі й больш пытаньнях Вы набралі тры балы, а менш, чым па сямі, – па адным бале,** гэта пазначае, што выбухі Вашай агрэсіўнасьці маюць хутчэй разбуральны, чым канструктыўны характар. Вы схільныя да непрадуманых учынкаў і жорсткіх дыскусіяў. Вы – чалавек, які пагардліва ставіцца да іншых і сваімі паводзінамі правакуе канфліктныя сытуацыі, якіх можна было б пазьбегнуць.

**Калі ж па сямі й больш пытаньнях Вы атрымаеце па адным бале й менш, чым па сямі пытаньнях, – па тры балы,** значыць Вы надмерна замкнёны ў сабе чалавек. Нельга сказаць, што выбухі агрэсіўнасьці Вам не ўласьцівыя, але Вы хаваеце іх занадта ўжо старанна. СД



## Беларуская Музычная Альтэрнатыва сумесна з агенцтвам "Линия звука"

***распачынае тур "Вольныя танцы". На працягу сьнежня адбудуцца канцэрты ў Воршы, Магілёве, Берасьці, Горадні, Гомелі й Стоўпцах з удзелам гуртоў "Палац", "Postskriptum", "Крама", "Крыві", "NRM" і іншых.***

**8 сьнежня ў Воршы** ў кінатэатры "Перамога" граюць **"Палац", "Postskriptum", "Зелень Дарог" і інш**. Пачатак у 19.00.

**9 сьнежня ў Магілёве** ў Палацы культуры пiянэраў выступяць **"Палац", "Postskriptum", "Акруга Вольнага Мастацтва".** Пачатак у 19.00.

**16 сьнежня ў Горадні** ў Доме культуры хімікаў адбудзецца канцэрт з удзелам гуртоў **"Крама", "Нейро Дюбель", "КальЯн", "Твар" і інш.** Пачатак у 19.00.

**22 сьнежня ў Гомелі** ў Абласным культурным цэнтры выступяць **"Крама", "Крыві", "Вруцелето", "Бан Жвірба" і інш.** Пачатак у 19.00.

***Дадатковую інфармацыю можна атрымаць па тэл. 2271532, 2490888, e-mail: supranovich@dyjaryush.org.by, 220085, Менск, а/с 5.***













СТУДЭНЦКАЯ ДУМКА №7. Кастрычнік-2000. Год выданьня LXXV. Нумар ад пачатку выданьня 59.Штомесячнік, заснаваны Задзіночаньнем Беларускіх Студэнтаў. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1296 ад 13 красавіка 1999г. Рэдакцыя часопісу можа не падзяляць меркаваньні аўтараў. Тэксты, якія не замаўляліся рэдакцыя не вяртае. Наклад 1300. Адрэса: Менск, 220013 Дарашэвіча 4-2. Падпісана ў друк 07.12. 2000.

**Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы "Чырвоная зорка"**
**УП Паліграфкамбінат імя Якуба Коласа, г. Мінск 220073, 1-шы Загарадны зав., 3.**
**Замова №___________**